## ЗЬМЕСТ



### Селькоры, прымайце выклік!

Я паставіў перад сабою задачу: ніводнага калгасу майго раёну без часопісу „Шляхі Калектывізацыі“, кожны калгасьнік і калгасьніца павінны чытаць гэты часопіс.

Для гэтага я аб'яўляю сабе ўдарнікам па распаўсюджваньні часопісу „Шляхі Калектывізацыі“. Да 25 сакавіка г. г. абавязуюся даць 50 падпішчыкаў на часопіс і ў далейшым актыўна праводзіць працу ў гэтым напрамку.

Выклікаю на сацспаборніцтва па распаўсюджваньні „Шляхоў Калектывізацыі“ усіх селькораў БССР і ў першую чаргу кіраўніка селькораўскага гуртка Савіцкага (Рагачэўскі раён), Язэпа Саўчанка (Полацкі раён), Ал. Кавалеўскага (Ветрынскі раён), Ал. Стаховіча (Крупскі раён), Янку Гінзбурга (Вушацкі раён), Русовіча В. (Заслаўскі раён), Кавалёва П. (Клімавіцкі раён), Войтка М. (Смалявіцкі раён).

Чакаю водгукаў праз часопіс „Шляхі Калектывізацыі“.

**Селькор. Гур Грыгор.**

Калгас „Труд“
Ветрынскага раёну
9|III-31 г.

**Ад рэдакцыі:** 22 сакавіка тав. Гур даслаў у рэдакцыю часопісу спраўку аб тым, што ім здадзена на пошту падпіска на 51 падпішчыка на часопіс „Шляхі Калектывізацыі“.

### Выклік прымаю

Па выкліку селькора Грыгора Гура з калгасу „Труд“ Ветрынскага раёну, абавязуюся даць у бліжэйшыя тыдні ня менш 50 падпішчыкаў на часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ і выклікаю на сацспаборніцтва па распаўсюджваньні гэтага часопісу селькора Шумілава з Шклоўскага раёну.

**Селькор Я. М. Савіцкі**

в. Турск, Рагачэўскага раёну.

### Папраўка

У часопісу „Шляхі Калектывізацыі“ № 3, за люты гэтага году, у перадавым артыкуле „МТС—арганізатары калгаснага прыліву“ дапушчаны грубыя палітычныя памылкі.

На 2 старонцы 1-я калонка, надрукавана: „барацьба за сёньняшняга калгасьніка“, а трэба чытаць: **„барацьба за сёньняшняга аднаасобніка — заўтрашняга калгасьніка“.**

На гэтай-жа старонцы 1-я калонка надрукавана: „ ... для выкананьня пастаўленых УсеКП(б) задач па калектывізацыі ня менш 45 проц.“, а трэба чытаць: **„... Для выкананьня пастаўленых ЦК КП(б)Б задач па калектывізацыі ня менш 45 проц. усіх сялянскіх гаспадарак БССР у трэці год пяцігодкі.“**

**Кожны селькор,**
**кожны актывісты**
**калгасу і вёскі**
**павінен пашыраць**
**падпіску на часопісь**
**„ШЛЯХІ**
**КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“**

*Пралетары ўсіх краін, злучайцеся*

# Шляхі калектывізацыі

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60

№ 6—САКАВІК—1931

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

# ПАСТАНОВЫ VI ЗЬЕЗДУ САВЕТАЎ У МАСЫ

**„ДЛЯ ТАГО, КАБ ЗРАБІЦЦА САПРАЎДНАЙ І МОЦНАЙ АПОРАЙ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ, ПЕРАД БЕДНЯКОМ і СЕРАДНЯКОМ—АДНААСОБНІКАМ АДЗІН ШЛЯХ—ШЛЯХ ДАПАМОГІ КАЛГАСАМ, А ПАСЬЛЯ І ЎСТУПЛЕНЬНЕ Ў КАЛГАСЫ".**

## АБ КАЛГАСНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ

**(Пастанова VI Усесаюзнага зьезду саветаў)**

Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад НКЗему Саюзу ССР і судаклады Калгасцэнтру і Трактарацэнтру аб калгасным будаўніцтве, VI зьезд саветаў Саюзу ССР пастанаўляе:

I

**Вынікі калгаснага руху і перавагі калгасаў перад аднаасобнымі гаспадаркамі.**

Рашаючыя вынікі калгаснага руху за мінулыя гады заключаюцца ў тым, што калгасны шлях праверан мільёнамі сялян на ўласным вопыце і ацэнен імі, як адзіны шлях, які вызваляе іх ад кулацкай кабалы і вядзе да вольнага калгаснага жыцьця.

1. Лік сялянскіх гаспадарак, якія аб'ядноўваюцца ў калгасы, непарыўна нарастае з году ў год: у 1928 г.—аб'ядналася ў калгасах 400.000 гаспадарак, у 1929 г.—1 мільён, у 1930 г.—6 мільёнаў і на 10 сакавіка 1931 г.—9.400.000 ці 37 проц. усіх бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак Саюзу ССР.

На 10 сакавіка 1931 году аб'ядналася ў калгасы:

а) па асноўных збожжавых раёнах. (Паўночны Каўказ, Ніжняя Волга, стэпавая паласа Украіны, Крым, Заволжа Сярэдняй Волгі)—3.000.000 гаспадарак (74 проц. усіх бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак);

б) па астатніх збожжавых раёнах—. 3.800.000 гаспадарак (40 проц. усіх бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак;)

в) па спажываючай паласе і нацыянальных раёнах— 2.600.000 гаспадарак (22 проц. усіх бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак);

2. Пасеўныя плошчы калгасаў растуць непарыўна з года ў год яшчэ шпарчэй, чым расьце лік гаспадарак, якія аб'яд-

наліся ў калгасах: у 1928 годзе калгасы засеялі (вясной і восеньню) 2 млн. гэктараў, у 1929 г.—6,5 млн. гэкт., у 1930 г.—43 млн. гэкт.

Такі вялікі рост тлумачыцца ня толькі тым, што расьце лік гаспадарак, якія аб'ядналіся ў калгасах, але і тым, што на адзін калгасны двор прыпадае значна больш пасеваў, чым на адну аднаасобную гаспадарку.

Вясной 1930 г. пасеў на адзін двор складаў па Саюзе ССР: 2,7 гэкт. у аднаасобнікаў і 5,2 гэкт. у калгасах (перавышэньне амаль у два разы); па асноўных збожжавых раёнах: у аднаасобнікаў—3,7 гэкт. а ў калгасах—7,7 гэкт. на двор (перавышэньне больш, чым у два разы); па астатніх збожжавых раёнах: у аднаасобнікаў—2,9 гэкт., а ў калгасах—4,6 гэкт. на двор (перавышэньне больш чым у 1½ разы) па спажываючай паласе і нацыянальных раёнах: у аднаасобнікаў—2,2 гэкт., а ў калгасах—2,8 гэкт. на двор (перавышэньне на ¼).

3. Такое значнае перавышэньне калгаснага пасеву над індывідуальным тлумачыцца перш за ўсё тым, што калгас ёсьць буйная аб'яднаная гаспадарка, якая мае магчымасьць ужываць і найлепш выкарыстоўваць трактары, сельскагаспадарчыя машыны і г. д., тады як аднаасобная гаспадарка ёсьць дробная гаспадарка, пазбаўленая такой магчымасьці. Нават конь дае ў калгасе больш чым у аднаасобніка.

Вядома, што конь у калгаснай гаспадарцы ў 1930 г., ня гледзячы на ўсе недахопы ў выкарыстоўваньні коняй, усё-ж апрацаваў у 1½-2 разы большую плошчу, чым у аднаасобных бядняцкіх, серадняцкіх гаспадарках.

Перавышэньне калгаснага пасеву тлумачыцца, апрача таго, тым, што калгасы як гаспадаркі буйныя і таварыскія, маюць магчымасьць карэнным чынам палепшыць агратэхнічную пастаноўку справы (зьнішчэньне межаў, пасеў суцэльным масывам, ачыстка і пратручваньне ўсяго пасеўнага матар'ялу, ужываньне радковага засеву і г. д.), тады як індывідуальныя гаспадаркі, як правіла, пазбаўлены такой магчымасьці.

Гэтай акалічнасьцю і трэба вытлумачыць той факт, што, ня гледзячы на вялікія недахопы, якія мелі месца ў арганізацыі ўборкі з прычыны навізны справы, ураджай збожжа ў калгасах у 1930 г. перавысіў у сярэднім ураджай у аднаасобнай гаспадарцы па меншай меры на 10-15 проц.

4. У выніку ўсяго гэтага ўзрасьлі дабрабыт калгасьнікаў і таварнасьць калгаснай гаспадаркі:

а) даход ад сельскай гаспадаркі на душу калгаснага насельніцтва за 1930 г. аказаўся вышэй душавога даходу аднаасобнікаў ня менш, чым у 1½ разы, што для калгасьніка, ранейшага бедняка-аднаасобніка, азначае павышэньне даходу ня менш, чым у два разы;

б) праданая ў 1930 годзе калгасамі дзяржаве таварная прадукцыя збожжавых культур (460 млн. пудоў) перавысіла больш чым у 3½ разы разьмеры таварнага па-завясковага збожжа кулакоў у 1926-1927 годзе (126 млн. пуд), і больш чым у 1,6 разы даваенную таварную прадукцыю памешчыцкай гаспадаркі (280 млн. пудоў);

в) ня гледзячы на тое, што ў радзе калгасаў справа здачы (продажу) таварнага збожжа дзяржаве была пастаўлена нездавальняюча, плян збожжазаготовак у 1930 г. калгасы выканалі поўнасьцю і ў тэрмін.

5. У рэзультаце ўступленьня мільёнаў сялян на шлях калектывізацыі зьмянілася аблічча ўсёй нашай сельскай гаспадаркі. Месца малапрадукцыйнасьці дробнай і адсталай аднаасобнай сялянскай гаспадаркі займае буйная аб'яднаная калектыўная гаспадарка, якая ўзброена новай тэхнікай і дае высокую прадукцыйнасьць.

Гэта факт, што 85.000 буйных калектыўных гаспадарак, якія стварыліся шляхам аб'яднаньня 6 млн. бядняцкіх і серадняцкіх аднаасобных дробных сялянскіх гаспадарак, засеялі вясной 1930 г. 32,8 млн. гэктараў, у той час, як астатнія 20 млн. аднаасобных сялянскіх гаспадарак засеялі ўсяго 52,8 млн. гэкт. Гэта азначае, што 85.000 калектыўных гаспадарак аказаліся ў стане засеяць на сваіх палёх больш паловы (62%) усяго таго пасеву, якія змаглі

правесьці 20 млн. аднаасобных сялянскіх гаспадарак.

Наша краіна, краіна дробнай сялянскай гаспадаркі, зруйнованай нашчэнт памешчыкамі і кулакамі, становіцца краінай самай буйнай, самай передавой сельскай гаспадаркі ў сьвеце.

6. Такі асноўны вынік ажыцьцяўленьня палітыкі ленінскай партыі.

Дзякуючы гэтай палітыцы мы вышлі з крызісу збожжавай гаспадаркі.

Дзякуючы гэтай палітыцы перамаглі мы голад.

У выніку практычнага правядзеньня гэтай палітыкі мільёны сялян, якія правялі калектыўна веснавы і асеньні пасеў у 1930 г., ня з кніг і тэарэтычных разважаньняў, а на ўласным вопыце пераканаліся ў правільнасьці ўказаньняў Леніна аб тым, што:

„Дробным гаспадаркам з галечы ня выйсьці“ (Ленін).

„Калі мы будзем сядзець па-старому ў дробных гаспадарках, хоць і вольныя грамадзяне на вольнай зямлі, нам усё роўна пагражае немінучая пагібель“ (Ленін).

„Толькі пры дапамозе агульнай, арцельнай, таварыскай працы можна выйсьці з тупіку, у які загнала нас імпэрыялістычная вайна“ (Ленін).

„У два і тры разы ўзьнялася-б прадукцыйнасьць працы; у два і ў тры разы была-б захавана чалавечая праца для земляробства і чалавечай гаспадаркі, калі-б ад гэтай раздробленай і дробнай гаспадаркі адбыўся пераход да гаспадаркі грамадзкай“ (Ленін).

## II

## Дапамога савецкай дзяржавы сялянам будуючым калгасы

Ідучы па стапох Леніна, савецкая ўлада аказвае калгасам дапамогу, якая з году ў год усё больш пашыраецца, Савецкая ўлада аказвае дапамогу, галоўным чынам, калгасам таму, што толькі такая дапамога зьяўляецца адзіным і сапраўдным відам дапамогі, які дае магчымасьць бедняку і серадняку выйсьці з галечы і зьбядненьня і назаўсёды вызваліцца ад кулацкай кабалы і эксплёатацыі.

У 1931 годзе, дзякуючы пасьпяховаму выкананьню пляну індустрыялізацыі Саюзу ССР і перавыкананьне заданьня на першыя два гады пяцігодкі, савецкая ўлада значна ўзмацняе ў параўнаньні з 1930 г. дапамогу калгасам:

1) накіроўвае ў сельскую гаспадарку 120.000 трактароў (у пераводзе на 10-сільны трактар);

2) арганізуе 1.040 новых машына-трактарных станцый (апрача існуючых);

3) падвойвае забесьпячэньне сельскае гаспадаркі і калгасаў сельска-гаспадарчымі машынамі (на суму 768 млн. руб. замест 400 млн. руб. у мінулым годзе), у прыватнасьці ўпяршыню накіроўваецца ў сельскую гаспадарку 7.000 грузавых і лёгкіх аўтамабіляў;

4) адпускае сельскай гаспадарцы 24 млн. цэнтнэраў (145 млн. пудоў) угнаеньняў і на 40 млн. руб. сродкаў барацьбы са шкоднікамі;

5) адпускае калгасам 21 млн. цэнтнэраў (126 млн. пуд.) палепшанага і гатунковага насеньня;

6) адпускае калгасам і машына-трактарным станцыям 1 млрд. 50 млн. руб. па бюджэту і доўгатэрміновым крэдыце і, апрача таго, 350 млн. руб. у парадку авансу пасеўшчыкам, якія кантрактуюць прадукцыю свайго паляводзтва.

## III

## Калгасы ці аднаасобная гаспадарка

Пераможны калгасны рух рашуча зьмяняе суадносіны клясавых сіл у Саюзе ССР.

1. На аснове разгортваньня суцэльнай калектывізацыі савецкая ўлада перайшла да палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы і пасьпяхова ажыцьцяўляе гэту палітыку на працягу апошняга году. Серадняк, які ўступіў у калгас, побач з калгасьнікам—ранейшым батраком і бедняком—ператвараецца ў сапраўдную і моцную апору савецкай улады ў вёсцы.

Тым самым у вялізарнай меры ўмацоўваецца змычка рабочай клясы з сялянствам, пашыраецца фундамант рабоча-сялянскай улады, для якой адгэтуль асноўнай і галоўнай апорай у вёсцы зьяўляецца калгаснае сялянства.

Цалкам апраўдваюцца словы Леніна:

„Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе паказаць сялянам перавагі грамадзкай, калектыўнай таварыскай, арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі калі ўдасца дапамагчы селяніну пры дапамозе таварыскай арцельнай гаспадаркі, тады толькі рабочая кляса, якая трымае ў сваіх руках дзяржаўную ўладу, сапраўды давядзе селяніну сваю правату, сапраўды прыцягне на свой бок моцна і належным чынам многамільённую сялянскую масу“ (Ленін).

2. Цяпер калі многамільённыя масы беднякоў і серадлякоў, пераканаўшыся ў перавагах калгасаў, уступілі на калгасны шлях, а кулацтва—асноўны вораг калгасаў—ліквідуецца як кляса—перад кожным бедняком і серадняком—аднаасобнікам, яшчэ няўступіўшым у калгас, паўстала асноўнае пытаньне—за, ці супроць калгасу.

Бядняк і серадняк—аднаасобнік, які дапамагае кулаку змагацца з калгасамі і падрывае калгаснае будаўніцтва, ня можа быць названы саюзьнікам і тым больш апорай рабочай клясы,—ён на справе саюзьнік кулака.

Толькі той бядняк і серадняк—аднаасобнік застаецца саюзьнікам рабочай клясы, хто разам з рабочай клясай дапамагае будаваць калгасы, хто падтрымлівае калгасны рух, хто дапамагае весьці рашучую барацьбу з кулаком.

Для таго, каб зрабіцца сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады, перад бедняком і серадняком—аднаасобнікам адзін шлях—шлях дапамогі калгасам, а пасьля і ўступленьне ў калгасы.

Зьезд саветаў пераканаеы, што масавы вопыт калгасаў у найкарацейшы тэрмін пераканае беднякоў і серадняков—аднаасобнікаў у выгадзе пераходу ў калгасы, і яны ўступяць пад калгасны сьцяг.

VI Зьезд саветаў Саюзу ССР абавязвае работнікаў калгаснага руху і ўсе арганізацыі савецкай улады цярпліва і настойліва весьці растлумачальную работу сярод аднаасобнікаў, накіраваную для таго, каб пераканаць масы сялян стаць на шлях калектывізацыі.

Ход калектывізацыі на працягу апошніх тыдняў (за студзень, люты і першую дэкаду сакавіка ў калгасы ўступіла 2, 8 млн. сялянскіх гаспадарак) паказвае, што новыя мільёны сялянскіх гаспадарак ужо вырашылі пытаньне аб тым, з кім ім ісьці—з рабочай клясай і ўсім калгасным сялянствам—за калгасы, ці за кулаком—супроць калгасаў.

## IV

## Галоўнейшыя недахопы ў працы калгасаў

Мільёны сялянскіх гаспадарак, уступіўшых у калгасы ў 1930 г., змаглі ўжо ў першую калгасную сяўбу ўвесну 1930 г. на многа павысіць, у параўнаньні з аднаасобнай гаспадаркай, прадукцыйнасьць працы і скарыстаньне машын і прылад. Аднак, тыя магчымасьці павышэньня прадукцыйнасьці працы пры адначасовым яе палягчэньні, якія закладзены ў буйнай калектыўнай гаспадарцы, былі скарыстаны далёка ня поўнасьцю дзякуючы раду сур'ёзных недахопаў у рабоце калгасаў.

Самымі галоўнымі і самымі шкоднымі недахопамі ў рабоце калгасаў у 1930 годзе былі, па-першае, разьмеркаваньне калгаснага прыбытку не па колькасьці і якасьці працы калгасьніка, а па душах, і, па-другое, няўмелая і дрэнная арганізацыя працы, у асаблівасьці пры ўборцы ўраджаю.

1. Разьмеркаваньне даходу па душах, а не па колькасьці і якасьці працы калгасьніка мела месца ў радзе выпадкаў, у асаблівасьці ў калгасах Сярэдняй Волгі, Паўночнага Каўказу і Сібіры, і ва ўсіх выпадках цягнула за сабой падрыў матар'яльнай зацікаўленасьці калгасьніка ў рэзультатах калгаснага вытворства, рэзкае паніжэньне прадукцыйнасьці працы, памяншэньне выхаду калгасьнікаў на працу і ў выніку—памяншэньне прыбытку калгасьніка. У такіх калгасах адны калгасьнікі, лепшыя і найбольш сьвядомыя, найбольш адданыя агульнай справе, працавалі сумленна, а другія ўхіляліся ад працы і скарыстоўвалі калгас як сродак пажыць за кошт чужой працы, сарваць ад грамадзкай працы найбольш, працуючы менш. Разьмеркаваньне прыбыткаў (як грашовых, так і натуральных) не па колькасьці і якасьці ўкладзенай калгасьнікам працы, а па ду-

шах, вельмі часта прапаведваецца кулакамі і другімі ворагамі калгасаў, якія прабуюць сарваць калгасную справу.

Разьмеркаваньне калгасных прыбыткаў па прынцыпе—хто больш і лепш працуе, той больш атрымлівае, хто не працуе, той нічога не атрымлівае,—павінна зрабіцца правілам для усіх калгасьнікаў і калгасаў. Адпаведна гэтаму ў асноўных с.-г. работах, ворыве, сяўбе, поліве, уборцы, малацьбе—масавае распаўсюджваньне павінна атрымаць зьдзельная работа, якая ацэньваецца ў працаднёх. Толькі на гэтай падставе можа быць умацавана працоўная дысцыпліна і добра арганізавана работа ў калгасах. Правільная арганізацыя працы ў калгасах становіцца такім чынам тэй задачай, ад пасьпяховасьці вырашэньня якой залежыць прыбытак калгасу і далейшае яго ўмацаваньне. Дапамога калгасьнікам у адносінах правільнай арганізацыі працы, распаўсюджаньне зьдзельшчыны і ўстанаўленьне разьмеркаваньня прыбыткаў па працы зьяўляюцца важнейшай задачай зямельных і калгасных органаў.

2. Другім надзвычай важным недахопам у рабоце калгасаў зьявілася дрэнная арганізацыя ўборкі (у прыватнасьці бавоўны і ільну, а ў радзе раёнаў і збожжа), у выніку чаго ў радзе выпадкаў загінула некаторая частка калгаснага ўраджаю і паменшылася колькасьць бавоўны, ільну і іншых культур, здаваных (прадаваных) калгасамі дзяржаве. Дрэнная арганізацыя ўборкі наносіць вялізарную шкоду як калгасьнікам памяншэньнем іх прыбытку, так і дзяржаве ў выніку невыкананьня асобнымі калгасамі іх абавязацельстваў па здачы (продажы) дзяржаве таварнай прадукцыі ў разьмерах, якія прадугледжаны дагаварамі аб кантрактацыі. Неабходна дабіцца ў 1931 г. сапраўднага паляпшэньня пастаноўкі ўсей справы ўборкі як збожжавых, так і тэхнічных культур. Таму адначасова з арганізацыяй сяўбы, неабходна дакладна рыхтавацца да ўборачнай кампаніі, каб забясьпечыць правільную арганізацыю працы, лепшае скарыстаньне машын і на гэтай аснове рэзкае памяншэньне страт пры ўборцы і павялічэньне таварнай прадукцыі калгасаў.

## V

## Далейшыя задачы калгаснага будаўніцтва

Пасьпяховае выкананьне Саюзам ССР пяцігадовага пляну разьвіцьця індустрыі, якая стварае матар'яльную базу для разгортваньня калектывізацыі, ажыцьцяўленьне ў 1930 г. і ў пачатку 1931 г. вялізарных тэмпаў калгаснага руху, нябывалая шпаркасьць у стварэньні новых калгасных кадраў у 1930 годзе (25.000 гарадзкіх рабочых паслала рабочая кляса на дапамогу новым калгасам, а ў 1931 г. ужо старыя калгасы, у сваю чаргу, пасылаюць 20 тыс. арганізатараў калгасьнікаў на дапамогу новым калгасам) паказваюць, што задача завяршэньня калектывізацыі Саюзу ССР можа і павінна быць вырашана да канца пяцігодкі.

Выходзячы з усяго сказанага вышэй, VI зьезд саветаў Саюзу ССР пастанаўляе:

1. Саветам і савецкім органам выходзіць у сваёй рабоце як у галіне разьвіцьця прамысловасьці, так і ва ўсёй палітычнай і практычнай рабоце ў вёсцы з таго, што да канца пяцігодкі калектывізацыя Саюзу ССР павінна быць у асноўным закончана.

2. Вынікі першага году шырокага будаўніцтва машына-трактарных станцый паказалі, што машына-трактарныя станцыі, падводзячы пад калгасы базу самай перадавой у сьвеце земляробчай тэхнікі, зьяўляюцца важнейшымі апорнымі пунктамі суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы.

Ухваляючы цалкам і поўнасьцю устаноўлены ўрадам плян будаўніцтва машына-трактарных станцый у 1931 г. (лік машына-трактарных станцый даводзіцца да 1.400 адзінак з трактарным паркам у адзін млн. конскіх сіл) і адзначаючы, што тым самым заданьне пяцігадовага пляну па будаўніцтве машына-трактарных станцый, якое ўстаноўлена V зьездам саветаў, перавыконваецца ў 8 раз, зьезд саветаў устанаўляе ў якасьці новай задачы па разьвіцьці машына-трактарных станцый да канца пяцігодкі (у 1933 г.) ахоп машына-трактарнымі станцыямі шляхам злучэньня трактар-

най і жывой цягі 70-80 мільёнаў гэкт. калгасных пасеваў.

Разам з тым зьезд папярэджвае работнікаў сельскай гаспадаркі Саюзу ССР супроць недаацэнкі значэньня конскай цягі. Неабходная для здавальненьня патрэбнасьці Саюзу ССР колькасьць збожжа сырцу і кармавых культур можа быць выраблена толькі пры ўмове, калі побач з трактарам конская цяга поўнасьцю будзе захавана як для апрацоўкі палёў, так і для перавозкі цяжараў і скарыстана будзе лепш, чым у аднаасобных гаспадарках. Растрату конскай цягі зьезд саветаў лічыць праявай кулацкага ўплыву і прапануе ўсім органам савецкай улады з гэтым зьявішчам весьці самую рашучую барацьбу.

3. Асноўнай формай калгаснага руху на данай стадыі разьвіцьця зьяўляецца с.-г. арцель. У арцелі, дзе павінен быць свой вытворчы плян і суровы вытворчы вучот, селянін паступова набывае звычкі да ўмоў плянавай грамадзкай гаспадаркі. Арцель для дзесяткаў мільёнаў сялян ёсьць асноўная школа калектыўнага таварыскага вядзеньня справы і вучоту вынікаў грамадзкай працы, школа новай грамадзкай дысцыпліны, школа соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы і спаборніцтва.

Масавы пераход да камуны можа адбыцца толькі пасьля таго, як будзе пройдзена арцельная форма калгасаў, як школы грамадзкай гаспадаркі, пасьля таго, як будзе павышана тэхнічная база калгаснай гаспадаркі, будзе дасягнуты сур'ёзны рост калгасных кадраў і ўзьнімецца на належную вышыню ўзровень культурнага становішча калгасьнікаў пры абавязковай умове, што самі сяляне-калгасьнікі захочуць і будуць лічыць неабходным на падставе вопыту, імі самімі прапрацаванага, такі пераход.

4. Ухваляючы ініцыятыву калгасьнікаў, якія ўжо ў сучасны момант стварылі абагуленае малочнае стада калгасаў у 1,7 млн. шт. (у тым ліку 4.700 таварных малочных фэрм з 450 тыс. кароў і 4.600 таварных сьвінагадоўчых фэрмаў з 200 т. сьвінаматак), VI зьезд саветаў прапануе ўраду ўсямерна пашырыць меры фінансавай і арганізацыйнай дапамогі такім калгасам. Зьезд разглядае стварэньне калгаснай жывёлагадоўлі побач з арганізацыяй саўгаснай жывёлагадоўлі, як асноўны шлях вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы ў найкарацейшы тэрмін (1—2 гады), і ўхваляе пастанову ўраду аб стварэньні малочнага калгаснага цэнтру з асыгнаваньнем яму ў 1931 г. са сродкаў доўгатэрміновага крэдыту 115 млн. р. і сьвінагадоўчага калгаснага цэнтру з асыгнаваньнем яму ў 1931 г. 43 млн. р. са сродкаў доўгатэрміновага крэдыту.

5. Адной з асноўных форм гаспадарчых узаемаадносін калгасу з дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі гаспадарчымі арганізацыямі зьяўляецца дагавор аб кантрактацыі. Дагавор аб кантрактацыі зьяўляецца двухбаковым абавязацельствам, г. зн. ня толькі абавязацельствам дзяржавы аб дапамозе калгасам, але і абавязацельствам калгасаў аб здачы, імі, іх таварнай продукцыі дзяржаве. Зьезд разглядае дагавор аб кантрактацыі як неадлучную частку выкананьня вытворчага пляну калгасу і прапануе ўсім калгасьнікам і калгасам забясьпечыць своечасовае і добрасумленнае выкананьне кантрактацыйных дагавораў.

6. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на стварэньне і падрыхтоўку калгасных кадраў, прычым зьезд лічыць галоўнай задачай у гэтай галіне стварэньне вопытных кадраў кіраўнікоў вытворчых галін калгасаў (брыгадзіраў, паляводаў, старшых жывёлаводаў, старшых трактарыстаў, вучотчыкаў), якія спэцыялізуюцца ў адпаведных галінах гаспадаркі. Для стварэньня гэтых кадраў магчыма шырэй павінен ужывацца апраўдаўшы сябе мэтад масавай пасылкі найбольш вопытных калгасьнікаў са старых калгасаў на дапамогу новым калгасам і навучаньне кадраў новых калгасьнікаў у лепшых старых калгасах.

7. Лепшая арганізацыя працы і мэханізацыя апрацоўкі зямлі ў калгасах павінна суправаджацца ўзмацненьнем адходніцтва для работы ў іншых галінах (прамысловасьць, транспорт, будаўніцтва).

Улічваючы вялізарны недахоп рабочай сілы для прамысловасьці, якая разгортваецца шпаркім тэмпам, VI зьезд саве-

таў Саюзу ССР абавязвае ўсе калгасы ня толькі не перашкаджаць адходніцтву рабочых у прамысловасьць, але і спрыяць адходніцтву.

### VI

### Без магутнага разьвіцьця прамысловасьці не магчымы далейшы ўздым сельскае гаспадаркі

Толькі на аснове дасягнутых посьпехаў індустрыялізацыі Саюзу ССР стаў магчымым уздым сельскай гаспадаркі. Саюз ССР, разьвіваючы і ўзмацняючы прамысловасьць, перавыканаў у першыя два гады пяцігодкі заданьні пяцігадовага пляну на гэтыя два гады і тым самым стварыў магчымасьць падвядзеньня пад калгасы магутнай тэхнічнай базы. Інакш, без магутнага разьвіцьця прамысловасьці, гаспадаркам беднякоў і серадняков сялян пагражала-б зьбядненьне, загніваньне на ўзроўні малапрадукцыйнасьці дробнай гаспадаркі і ўзмацненьне кулацкай кабалы.

Зьезд падкрэсьлівае рашаючае значэньне разьвіцьця цяжкай прамысловасьці асабліва мэталюргіі, машынабудаўніцтва, трактарабудаўніцтва, аўтабудаўніцтва, сельгасмашынабудаўніцтва і хэміі, для далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі, калгасаў і саўгасаў у асаблівасьці, і прапануе ўраду надалей няўхільна праводзіць палітыку індустрыялізацыі Саюзу ССР, дамагаючыся ажыцьцяўленьня пяцігодкі за чатыры гады.

* * *

VI зьезд саветаў Саюзу ССР звараачецца да ўсіх беднякоў і серадняков ад паасобнікаў, якія яшчэ ня ўступілі ў калгасы:

Кожны дзень адтэрмінаваньня вашага ўступленьня ў калгасы замаруджвае рост вашага дабрабыту, пазбаўляе вас магчымасьці неадкладна карыстацца ўсімі перавагамі буйнай арцельнай гаспадаркі.

VI зьезд саветаў Саюзу ССР звараачецца да ўсёй калгаснай гаспадаркі.

Вашай задачай зьяўляецца вясной гэтага году засеяць па меншай меры 50 млн. гэкт. і тым самым пашырыць сваю пасеўную плошчу на 10 млн гэкт. і заняць калгасным пасевам ня менш паловы ўсяго яравога пасеўнага кліну нашай краіны.

Вопыт вашага пасеву вясной 1930 г. паказвае, што вы гэту задачу выканаеце цалкам, калі здолееце правільна і ў адпаведнасьці са статутам арцелі і вопытам лепшых калгасаў арганізаваць работу калгасьнікаў і разьмеркаваньне даходаў калгасу ў адпаведнасьці з колькасьцю і якасьцю працы калгасьнікаў.

**Старшыня VI зьезду саветаў
Саюзу ССР М. Калінін**

**Сакратар VI зьезду саветаў
Саюзу ССР А. Енукідзэ.**

Масква, 17 сакавіка 1931 г.



Электрычная праводка ў хату калгасьніка.

# Пад сьцягам барацьбы за суцэльную калектывізацыю

„ТОЛЬКІ ТОЙ БЯДНЯК І СЕРАДНЯК—АДНААСОБНІК ЗАСТАЕЦЦА САЮЗЬНІКАМ РАБОЧАЙ КЛЯСЫ, ХТО РАЗАМ З РАБОЧАЙ КЛЯСАЙ ДАПАМАГАЕ БУДАВАЦЬ КАЛГАСЫ, ХТО ПАДТРЫМЛІВАЕ КАЛГАСНЫ РУХ, ХТО ДАПАМАГАЕ ВЕСЬЦІ РАШУЧУЮ БАРАЦЬБУ З КУЛАКОМ“.

*(З пастановы VI зьезду саветаў СССР).*

## З дакладу Наркома земляробства БССР т. Рачыцкага на X Усебеларускім зьезьдзе саветаў

Разам з агульным ростам народнай гаспадаркі Савецкага Саюзу рабочая кляса БССР, у саюзе з асноўнымі масамі сялянства пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, дабілася вялікіх дасягненьняў у справе сацыялістычнага будаўніцтва. Апошнія гады зьяўляюцца гадамі вялікага пералому ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Пасеўныя плошчы па БССР за гэтыя 2 гады павялічыліся на 9,5 проц. На сёньнешні дзень ахоплена калектывізацыяй 17,5 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР. Плошча пад саўгасамі павялічылася амаль у тры з паловай разы.

Сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі ў 1930 годзе даў каля 20 проц. усёй валавой і каля 30 проц. таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі. Валавая прадукцыя сацыялістычнага сэктару з 15,8 міл. руб. у 1928-29 годзе ўзрасла да 144,4 міл. руб. у 1930 г.

Значна вырасла тэхнічная база сацыялістычнага сэктару. На гектар плошчы ў 1928 годзе прыходзілася машын і сельска-гаспадарчых прылад на 5,6 руб., у 1930 годзе—на 10,3 руб. Колькасьць трактараў узрасла з 173 у 1929 годзе да 793 на 1/I—31 г.

Гэтыя дасягненьні ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі сталі магчымымі толькі дзякуючы правільнай палітыцы камуністычнай партыі, якая накіравана на індустрыялізацыю краіны, на ўзмацненьне кіруючай ролі прамысловасьці ва ўсёй народнай гаспадарцы. *„Толькі буйная машынная прамысловасьць і перанясеньне яе ў земляробства ёсьць адзіная эканамічная база сацыялізму, адзіная база для пасьпяховай барацьбы за пазбаўленьне чалавецтва ад ярма капіталу“* (Ленін).

Разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты, ажыцьцяўленьне палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, выклікалі шалёнае супраціўленьне клясавага ворага, і таму рабочай клясе БССР, як і ўсяго Савецкага Саюзу, прыходзіцца перамагаць супраціўленьне клясавых ворагаў на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва.

КП(б)Б на працягу гэтага часу правяла вялізарнейшую работу па выкрыцьці нацыянал-дэмакратыі—кулацкіх агентаў, якія праводзілі контррэвалюцыйную палітыку. Партыя за апошні час правяла рашучую барацьбу з правым ухілам. Правыя апартуністы таксама ня згодны з палітыкай партыі, накіраванай на індустрыялізацыю краіны і калектывізацыю у тыя тэрміны, як гэта неабходна рабочай клясе. Перамога правага ўхілу ў нашай партыі азначала-б значнае ўзмац-

неньне капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне. *„Перамога правага ўхілу ў нашай партыі азначала-б нарастаньне ўмоў, неабходных для аднаўленьня капіталізму ў нашай краіне“* (Сталін).

Праводзячы правільную ленінскую палітыку, пашыраючы тэхнічную базу краіны і, у сувязі з гэтым, узмацняючы вытворчую змычку рабочай клясы з асноўнымі масамі сялянства, павышаючы кіруючую ролю пралетарыяту ва ўсёй народнай гаспадарцы, мы забясьпечылі паварот асноўных мас сялянства ў калгасы. Сьледам за бедняком і батраком пайшоў у калгас і серадняк.

**Ажыцьцявіць праграму трэцяга рашаючага**

Тыя дасягненьні, якія мы маем, далі магчымасьць К П (б) Б на 1931 год паставіць задачу калектывізацыі ня менш 45 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР, прычым 30 проц. вясною, з іх у раёнах дзейнасьці МТС ня менш 50 проц. Давесьці пасеўную плошчу да 4.083.000 гект., у тым ліку яравы клін да 2.698.000 гект., з іх па саўгасах да 180.000, калгасах—1.180.000 *га*.

Такім чынам, па ўсім сацыялістычным сэктары—1.360.000 *га* ці 33,5 проц. усёй пасеўнай плошчы.



Нарком земляробства БССР т. Рачыцкі.

Тымі-ж пастановамі ЦК КП(б)Б і ўраду прадугледжваецца ў 1931 годзе лік МТС давесьці да 25, колькасьць трактараў—да 2.360, з агульнай магутнасьцю ў 24.351 конскіх сіл. Запраектавана пабудаваць новых 45 ільназаводаў з колькасьцю ў 58 швінггурбін. У 1931 годзе павялічыцца стада буйной рагатай жывёлы на 21 проц., сьвіное стада—на 76 проц., прычым у сацыялістычным сэктары — саўгасах і калгасах — будзе сканцэнтравана ня менш 50 проц. буйной рагатай жывёлы. Малочнае стада ў саўгасах будзе даведзена да 51.000, а ў калгасах да 80.000 штук. Мы павінны паставіць у саўгасах 75.000 сьвінаматак і ў калгасах 150 тыс.

Каб забясьпечыць праграму ў галіне калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас, трэба перабудаваць работу ўсіх зьвеньняў савецкага і гаспадарчага апарату і ў першую чаргу работу саветаў. Ня гледзячы на прыкметнае павышэньне тэмпаў калектывізацыі ў апошнія месяцы, усё-ж гэта нарастаньне тэмпаў зьяўляецца невыстарчальным.

Надзеі на самацёк—гэта самае шкоднае, што ёсьць адмоўнага ў справе ка-




Рамонт трактара к веснавой сяўбе.

лектывізацыі. Трэба павесьці самую рашучую барацьбу з гэтымі праваапартуністычнымі настроямі.

## Арганізацыю працы ў калгасах—на вышэйшую ступень

Слабасьць працоўнай дысцыпліны, нявыхад поўнасьцю на работу ў некаторых калгасах выклікаліся сур'ёзнымі памылкамі ў справе разьмеркаваньня ўраджаю і даходаў праз ужываньне ядоцкага прынцыпу. Ядоцкі прынцып зьяўляецца лёзунгам кулакоў і рвачоў, ён павінен быць зжыты да канца з калгаснай практыкі.

Даходы павінны разьмяркоўвацца выключна на аснове колькасьці і якасьці выкананай працы. З гэтага правіла недапушчальны ніякія выключэньні ў адносінах харчовай або кармавой часткі прыбыткаў. Трэба цалкам ажыцьцявіць лёзунг: „хто не працуе, той ня есьць". Трэба шырока разгарнуць зьдзельшчыну на аснове ўмоў выпрацоўкі лепшых калгасаў, брыгад, ужываючы яе пераважна ў групавой або брыгаднай форме.

Пераход на *зьдзельшчыну* асабліва важны таму, што ён зьяўляецца *новым стымулам і моцным фундамантам далейшага* найшырэйшага разьвіцьця сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва сярод калгасьнікаў. Толькі такімі мэтадамі можна падняць прадукцыйнасьць працы.

Нам патрэбна ня толькі добра правесьці надыходзячыя работы ў калгасах пры наяўнасьці тых працоўных рэсурсаў, якія ёсьць, але і вызваліць максымальную колькасьць рабочых рук для сацыялістычнай прамысловасьці.

*Больш поўнае выкарыстоўваньне наяўнай працоўнай сілы, падняцьце на вышэйшую ступень прадукцыйнасьці зьяўляецца „гвоздзем" замацаваньня існуючых калгасаў і далейшага разгортваньня калгаснага руху.* Высокая прадукцыйнасьць—лепшы агітатар за ўцягненьне

новых тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы.

### Умацаваць існуючыя, разгортваць будаўніцтва новых саўгасаў

За гэты час адбылося значнае ўзбуйненьне і гаспадарчае ўмацаваньне саўгасаў. Спэцыялізацыі па асноўных галінах сельска-гаспадарчай вытворчасьці—сьвінагадоўля, малочная жывёлагадоўля, тэхнічныя культуры—спрыяла значнаму павышэньню ўраджайнасьці саўгасаў, удойлівасьці стада, узьняла арганізуючую ролю саўгасаў у справе калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Аднак, у радзе саўгасаў прадукцыйнасьць працы надта нізкая. Працоўная дысцыпліна не на належнай вышыні. Сабекошт прадукцыі высокі. Як правіла, гэтыя саўгасы не зьяўляюцца арганізуючымі цэнтрамі новых калгасаў.

Мы ўзялі рашучую лінію на спэцыялізацыю саўгасаў, праўда, гэта спэцыялізацыя праходзіць невыстарчальна. Настроі ў карысьць унівэрсальнай гаспадаркі—„мець усяго па крысе“—у радзе кіраўнікоў саўгасаў існуюць і зараз. Адмоўным зьяўляецца таксама і тое, што да апошняга году саўгасы працавалі пераважна з сэзоннымі рабочымі. У большасьці саўгасаў слабы склад кіруючых кадраў як па лініі адміністрацыйнай, так і профэсіянальнай.

Патрэбна карэнным чынам перабудаваць працу ў савецкіх гаспадарках. Добрая пастаноўка працы ў саўгасе, павышэньне прадукцыйнасьці, узьняцьце працоўнай дысцыпліны, добрае гаспадараньне—лепшы стымул для арганізацыі бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы. Асаблівую ўвагу патрэбна зьвярнуць на арганізацыю сьвінагадоўчых, малочных саўгасаў.

Задачы, якія стаяць па будаўніцтву саўгасаў і калгасаў, і той аб'ём працы, які прыпадзе на долю сацыялістычнага сэктару ў надыходзячую сельска-гаспадарчую кампанію, патрабуюць рашучага павароту савецкіх, грамадзкіх і каапэрацыйных арганізацый тварам да саўгасаў і калгасаў.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на максымальнае пашырэньне і лепшае скарыстаньне наяўнай тэхнічнай базы. На 1931 г. вызначана будаўніцтва новых 24 МТС. Здавалася-б, што пабу-



Галасуюць за прыём у калгас бедняка-аднаасобніка на сходзе калгасьнікаў.

дова ў 25 раёнах машына-трактарных станцый павінна прывесьці ў рух усе арганізацыі, прыкаваць да сябе ўвагу ўсёй грамадзкасьці. МТС—магутнейшы фактар, які арганізуе новыя дзесяткі тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы.

*Побач з поўным забесьпячэньнем будаўніцтва МТС, патрэбна разгарнуць масавую работу за беражлівыя адносіны да машын наогул і трактараў у прыватнасьці.*

### Бальшавіцкай сяўбе—ударны разгон

Важнейшая задача перад саўгасамі, калгасамі, МТС—гэта задача пасьпяховага правядзеньня веснавой пасеўнай кампаніі.

Праграма веснавой сяўбы 1931 году прадугледжвае пашырэньне пасеўных плошчаў на $17^{1}/_{2}$ проц. Прычым гэта пашырэньне ідзе выключна за лік працаёмкіх культур: корань-клубняплоды, тэхнічныя культуры. Пасеўны клін пад бульбай і кармавымі караньплодамі вызначаны ў 730 тыс. *га*. Тэхнічныя культуры павінны заняць у гэтым годзе 280 тыс. *га* супроць 170 тыс. *га* у мінулым годзе. Патрэбна ва што-б там ні стала падвоіць плошчу сеяных траў.

Пасеў сіласных культур вызначаецца ў 35.000 *га* супроць $2^{1}/_{2}$ тыс. у мінулым годзе. Ні аднаго гектара менш вызначаных плянам пасеваў бульбы, тэхнічных культур і траў—такая наша задача.

Увесь упор, уся ўвага павінны быць накіраваны да таго, каб пляны засеву культур, якія зьяўляюцца вядучымі ў сельскай гаспадарцы БССР, былі ня толькі выкананы, але і перавыкананы.

### Уперад—на вырашэньне жывёлагадоўчай праблемы

Наступная задача—праблема жывёлагадоўлі. Гэту праблему мы павінны вырашыць праз саўгасы і калгасы. На працягу 1929-30 году, з прычыны невыстарчальнай кармавой базы і падрыўной работы клясавага ворага—кулацтва, мы мелі значнае зьмяншэньне нашага стада як буйной рагатай жывёлы, так і сьвіней. Наша задача—аднавіць гэтае стада і павысіць яго прадукцыйнасьць. Паводле кантрольных лічбаў на 1931 год прадугледжана павялічэньне стада буйной рагатай жывёлы на 21 проц. і сьвінога—на 76 проц.

Асноўны ўпор у 1931 годзе пастаўлен на разьвіцьцё прамысловай сьвінагадоўлі. Выкананьне праграмы сьвінагадоўлі вымагаецца ня толькі інтарэсамі забесьпячэньня БССР, але і ўсяго СССР.

Канкрэтнае выкананьне вызначанай праграмы разьвіцьця сьвінагадоўлі і малочнай жывёлагадоўлі ўпіраецца ў кармавую базу і будаўніцтва. Таму прадугледжана плянам паляпшэньне 300 тыс. *га* сенажацяй, запраектавана правесьці сіласаваньне кармоў 1 млн. тон.

Трэба арганізаваць у надыходзячую веснавую пасеўную кампанію масавы паход за кармамі. Сіласную кампанію трэба ператварыць у масавую палітычна-гаспадарчую кампанію. Клопаты аб кармох неабходна зрабіць клопатамі кожнага рабочага, саўгасу, калгасьніка, калгасьніцы, аднаасобніка.

Новыя сельска-гаспадарчыя гіганты—саўгасы і калгасы—прад'яўляюць нам запатрабаваньні на кадры інжынэраў, тэхнікаў, майстроў і рабочай кваліфікаванай сілы. Паводле нашых падлікаў да канца пяцігодкі ў сельскай гаспадарцы трэба мець вышэйшай кваліфікацыі каля 7.000 чал., сярэдняй—16.000 чал., ніжэйшай (рулявых, паляводаў, брыгадзіраў, жывёлаводаў, сьвінароў)—каля 100 тыс. чал.

Абавязковымі ўмовамі для далейшага больш пасьпяховага будаўніцтва саўгасаў і калгасаў зьяўляецца яшчэ большае згуртаваньне вакол камуністычнай партыі, яшчэ больш рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты, хутчэйшая ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, канчатковае выкарчоўваньне прышчэпаўшчыны, рашучая барацьба супроць апартуністычных самацёчных тэмпаў.

*Праграма сацыялістычнага будаўніцтва 1931 году*, выкананьне якой завяршае скончэньне будаўніцтва фундаманту сацыялістычнай эканомікі, *павінна стаць баявым сьцягам штодзённай работы кожнага рабочага, калгасьніка, кожнага бедняка і серадняка.*

# УЗМАЦНІЦЬ ТЭМПЫ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

**Вышэй тэмпы калектывізацыі сельскай гаспадаркі! Мацней удар па кулаку— галоўнейшаму ворагу калектывізацыі!**

## З дакладу старшыні Белкалгасцэнтру т. Міцькова на X зьезьдзе саветаў Беларусі

Рабочая кляса, перамагаючы розныя перашкоды на шляху сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, ломячы супраціўленьне клясавага ворага, разграміўшы прышчэпаўшчыну, шпаркім тэмпам праводзіць сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, шпаркім тэмпам будуе буйныя сацыялістычныя фабрыкі хлеба, мяса і сырцу.

Зараз рад раёнаў набліжаецца ўжо да раёнаў суцэльнай калектывізацыі. Але працэсы калектывізацыі па асобных раёнах праходзяць не аднолькава. Звыш 30 проц. калектывізаваных гаспадарак мы маем у 9 раёнах, ад 20 да 30 проц.— у 20 раёнах, ад 18 да 20 проц.—у 11 раёнах, ніжэй сярэдняга, г. зн. ніжэй 18 проц., калектывізацыі—у 59 раёнах. Асабліва адстаюць у калектывізацыі 10 раёнаў. Такімі „героямі" зьяўляюцца: *Гарадоцкі* раён, дзе калектывізавана толькі 7,5 проц. гаспадарак, *Дубровенскі*—9,2 проц., *Бешанковіцкі*—8,5 проц., *Межанскі* — 9,4 проц, *Багушэўскі* — 9,5 проц., *Бабруйскі*—9,4 проц., *Рэчыцкі*—8,9 проц., *Гомельскі*—9 проц., *Цэрахаўскі*—9,8 проц., *Стара Дароскі*—9,9 проц. Я павінен адзначыць, што ў гэтых раёнах няма якіх-та асаблівых умоў, якія-б не давалі магчымасьці разгортваць там калектывізацыю. Слабыя тэмпы калектывізацыі тлумачацца слабай работай на мясцох. Разглядаючы пытаньне калектывізацыі, як важнейшую аснову сацыялістычнай рэканструкцыі гаспадаркі, і выходзячы з таго, што калектывізацыя зьяўляецца рашаючым фактарам у выкананьні асноўных праблем, пастаўленых перад сельскай гаспадаркай, зьезд ня можа прызнаць здавальняючымі тыя тэмпы калектывізацыі, якія мы маем зараз.

Вырашэньне праблемы тэхнічных культур, сырцу, мясной праблемы, тлушчовай праблемы і г. д. мы ня зможам выканаць інакш, як на падставе насаджэньня саўгасаў і калгасаў. Прыняты на 1931 год вытворчы плян і выкананьне яго цалкам залежыць ад таго, як мы справімся з задачай калектывізацыі. Тав. Сталін, гаворачы аб праблемах, якія стаяць перад сельскай гаспадаркай, і аб ролі саўгасаў і калгасаў у вырашэньні гэтых праблем, кажа так: „Лёс сельскай гаспадаркі і яе асноўных праблем ад сёнешняга дня будуць вызначаць не аднаасобныя сялянскія гаспадаркі, а саўгасы і калгасы". Мы ня можам вырашыць мясной праблемы на падставе дробненькіх аднаасобных гаспадарак, таксама, як і тлушчовай праблемы, і праблемы тэхнічных культур. Адсюль нашу работу па насаджэньні саўгасаў, па ўзмацненьні тэмпаў калектывізацыі мы павінны будаваць так, каб гэтыя проблемы былі вырашаны ў найбольш кароткі тэрмін.

Вытворчую праграму на 1931 год па разьвіцьці тэхнічных культур і жывёлагадоўлі зможам выканаць толькі тады, калі выканаем кантрольныя вызначэньні па калектывізацыі, г. зн. мець увясну бягучага году 30 проц. калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Прычыны яўна невыстарчальных тэмпаў калектывізацыі заключаюцца, папершае, у тым, што ня ўсюды праводзілася рашучая барацьба з кулацтвам, да апошняга часу ў радзе раёнаў справа калектывізацыі ідзе самацёкам, што зьяўляецца яўна апартуністычнай практыкай. Падругое, нашы гаспадарча-палітычныя кампаніі, якія праводзяцца на вёсцы, ня ўвязваюцца з задачамі разгортваньня

калгаснага руху. Мы павінны сваю работу арганізаваць так, каб усе кампаніі ўвязваць з асноўнай задачай узмацненьня тэмпаў калектывізацыі. Трэцяя прычына заключаецца ў тым, што да апошняга часу масавая работа на вёсцы пастаўлена вельмі кепска. Асабліва кепска праводзіцца работа сярод працоўных жанчын.

Да апошняга часу ў радзе раёнаў пануе апартуністычная недаацэнка работы з беднатой. А чым можна тлумачыць слабую пастаноўку работы сярод беднаты? Тым, што ў многіх раёнах мясцовыя работнікі ня бачылі клясавага ворага, не знаходзілі кулака.

Замест таго, каб замацоўваць батрацка - бядняцкае ядро ў калгасах, каб арганізоўваць беднату вакол калгасаў, замест таго, каб ачышчаць калгасы ад кулацкіх элемэнтаў, у многіх выпадках распаўсюджваліся апартуністычныя тэорыі аб тым, што кулака ў раёне няма, у той час, калі кулак, прабраўшыся ў калгас, разбурваў гэты калгас знутры. Гэта-ж факт, што ў калгасах Сеньненскага раёну выкрыта звыш 100 кулакоў. Гэта ж факт, што зараз, праводзячы чыстку калгасаў, выкідваецца з іх па 50-60 кулакоў у раёне. Зразумела, што кулацкія элемэнты праводзілі работу супроць нас, супроць калектывізацыі, за развал калектыўных гаспадарак.

Як мага хутчэй трэба ліквідаваць недаацэнку значэньня МТС у справе разгортваньня калгаснага руху. Ужо зараз раёны, дзе будуюцца МТС, пачынаюць ісьці наперадзе астатніх раёнаў у справе калектывізацыі. Гэтыя раёны ў сапраўднасьці павінны ісьці першымі па выкананьні ўсіх заданьняў. Мабілізацыю сродкаў на будаўніцтва МТС трэба рашуча ўзмацняць, інакш мы сарвем будаўніцтва МТС.



Старшыня калгасцэнтру БССР т. Міцькоў.

Калгасы БССР ужо ў гэтым годзе— у першым годзе масавай калектыўнай работы—паказалі вялізарныя перавагі перад аднаасобнымі гаспадаркамі. Перавагі кожнага калгасу над дробнай суседняй аднаасобнай гаспадаркай павінны быць вядомы кожнаму аднаасобніку. Невыстарчальна скарыстоўваем гэтыя перавагі ў нашай рабоце за арганізацыю новых калгасаў, за арганізацыю новага калгаснага прыліву.

Ураджайнасьць у калгасах значна вышэй ураджайнасьці ў аднаасобнай гаспадарцы. Напрыклад, з аднаго *га* ў калгасе нажынаецца жыта 8,8 *цнт*,

а ў аднаасобнікаў—7,9 *цнт*, аўса—у калгасе—9,2 *цнт*, у аднаасобніка—8,3, ячменю ў калгасе—7,5, у аднаасобніка—9,6, бульбы ў калгасе—100, у аднаасобніка—96.

Мы маем перавагі ня толькі ў галінах палявых культур, а дасягнулі некаторага зруху і паляпшэньня ў справе жывёлагадоўлі.

Нарэшце, таварышы, надзвычайна цікавыя прыклады пераважнасьці калектыўнай гаспадаркі над дробнай аднаасобнай заключаюцца яшчэ і ў тым, што на апрацоўку аднаго *га*, засеў і абмалот у калгасе траціцца значна менш часу, чым у аднаасобнай гаспадарцы. Для таго, каб апрацаваць 1 *га* жыта (сюды ўключаецца ўся работа ад пачатку да канца) у калгасе затрачана ў гэтым годзе 21,9 дзён, а ў аднаасобніка—37,8.

На апрацоўку аднаго *га* аўсу ў калгасе затрачана 19,7 дзён, у аднаасобніка—33 дні. Па ячмені адпаведна—21,6 і 40; па бульбе—69,4 і 76; па ўборцы сенажацяй 9,1 і 11,9.

Адзначаючы гэтыя перавагі, трэба канстатаваць, што затраты і ў калгасах зьяўляюцца яшчэ надзвычайна высокімі і ні ў якім разе яны нас ня могуць задаволіць. Лепшая арганізацыя працы, працэс механізацыі сельскай гаспадаркі і вытворчасьці з кожным годам будуць даваць усё больш высокую эфэктыўнасьць. Машынізацыя і паступовая энэргаўзброенасьць работы калгасьнікаў з кожным годам у нас павялічваецца.

У сувязі з тым, што мы маем значныя перавагі ў выкарыстаньні сродкаў вытворчасьці, мы маем і большыя матар'яльныя вынікі ад работы калгасьнікаў у параўнаньні з работай аднаасобнікаў. Валавы прыбытак на адну сям'ю ў калгасе ў гэтым годзе складае каля 1.000 руб., а чысты прыбытак, як правіла, у калгасьнікаў значна вышэй таго прыбытку, які яны мелі, будучы на аднаасобнай гаспадарцы, і таго, які мае сусед калгасьніка, што не ўвайшоў яшчэ ў калгас.

Аднак, гэтыя посьпехі і перавагі зьяўляюцца яшчэ першапачатковымі. Гэта толькі пачатак вялікай работы. Мы далёка яшчэ не выкарыстоўваем поўнасьцю тыя вялізарныя магчымасьці, якія дае калгас



Рамонт плуга. Каралейскі р. камуна „Праца“

для арганізацыі высокатаварнай гаспадаркі. Гэта тлумачыцца тым, што мы невыстрачальна працуем над унутранай арганізацыяй гаспадаркі ў калектыве.

На данай ступені калгаснага будаўніцтва мала ўжо займацца толькі арганізацыяй калгасаў, а трэба ставіць з усёй сілай, з усёй рашучасьцю задачу і патрабаваньне высокіх якасных паказальнікаў. Мала толькі пытацца, колькі і ў якім раёне арганізавана новых калгасаў. Справа ўжо гэта зараз ня столькі трудная пры ўмовах, калі ў кіраўніцтве ня будзе правых апартуністаў. Трэба зараз пытацца ўжо колькі пастаўлена ў вас у калгасах таварных малочных кароў, колькі гэта таварнае малочнае стада дало малака, колькі ў вас у калгасах пастаўлена сьвінаматак, колькі гэтыя сьвінаматкі далі адкормленых сьвіней і г. д.

Адным словам, барацьба за якасныя паказальнікі, за высокую таварную прадукцыю павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўвагі і на выканьне гэтай задачы



Прыём заяў ад аднаасобнікаў аб уступленьні ў калгас.

павінна быць мабілізавана ўся калгасная маса. Высокую якасьць паказальнікаў працы можна забясьпечыць выключна толькі на падставе правільнай арганізацыі працы, правільнага і поўнага выкарыстаньня працоўнай сілы.

Нам трэба цьвёрда перайсьці на вучот працы ў працаднёх, а не ў грашовых вылічэньнях. Разьмеркаваньне прыбытку і ўраджаю праводзіць выключна па колькасьці і якасьці затрачанай працы кожным калгасьнікам. У сувязі з надыходзячай веснавой сяўбой трэба ўжо зараз растлумачыць калгасьнікам, што разьмеркаваньне прыбытку і ўраджаю мы будзем праводзіць выключна выходзячы з таго, колькі гэты калгасьнік працаваў і як працаваў.

Падамо некалькі фактаў, што дае правільная арганізацыя працы. У калгасе імя XII зьезду (Талочынскі раён) ня было норм выпрацоўкі па вывазцы лесу. Пры такіх умовах на пару коняй ледзь вывозілі два куб. мэтры, а пасьля ўвядзеньня нормы выпрацоўкі вывазка павялічылася ў паўтары разы. У адным з калгасаў Веткаўскага раёну жняярка да ўвядзеньня норм выпрацоўкі зжынала толькі 3 *га*, а пры ўвядзеньні гэтакіх—пры меншай затраце колькасьці рабочых гадзін—выпрацоўка павялічылася амаль што ў два разы. Такім чынам, правільная арганізацыя працы ў калгасах зьяўляецца цэнтральным пытаньнем калгаснага будаўніцтва, якое павінна прыкаваць да сябе ўвагу ўсіх арганізацый.

Мы кажам, што без падрыхтоўкі калгасных кадраў, без разгортваньня культасьветнай работы ў калгасах нельга правільна арганізаваць гаспадарку. А між тым, падрыхтоўка кадраў у нас праходзіць яўна невыстрачальна. Замест таго, каб да пачатку сяўбы падрыхтаваць 10.000 чал.. мы пакуль што падрыхтавалі толькі 2.000 чал. У радзе раёнаў яшчэ да гэтага часу ня існуюць курсы па падрыхтоўцы калгасных работнікаў. Недапушчальнае зьявішча мае месца ў многіх раёнах, што на крусы па падрыхтоўцы кадраў амаль зусім ня прыцягва-

юцца жанчыны. Дырэктывы адпаведных органаў аб тым, каб у складзе кадраў калгасных работнікаў было ня менш 50 проц. жанчын—на выконваюцца.

Пытаньне аб жывёлагадоўлі і падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Усім нам вядома, што праблему жывёлагадоўлі можна з посьпехам і ў найбольш кароткі тэрмін вырашыць толькі на падставе арганізацыі саўгасаў і калектывізацыі бядняцка серадняцкіх гаспадарак. Аднак практычныя вынікі работы калгасаў у гэтым напрамку пакуль што вельмі слабыя. На 20-га лютага па лініі сьвінаводчых калгасаў пастаўлена 35.000 сьвінаматак, а павінна было быць на 1-га студзеня 48.000. Да 1-га студзеня 1932 г. павінна быць 150.000. Па лініі малочнатаварных фэрм мы маем 40 000 галоў пастаўленай рагатай жывёлы, замест 75.000; прычым, якасныя паказальнікі тут таксама нізкія, нізкая ўдойлівасьць, кепскі догляд жывёлы, адгэтуль і здыханьне.

Магчымасьці для разьвіцьця сьвінагадоўлі мы маем вялікія. Толькі трэба разгарнуць, як належыць, работу ў гэтым напрамку. Трэба абавязкова ўзмацніць тэмпы камплектаваньня, прыцягнуць калгасныя масы да задач камплектаваньня, зацікавіць іх, растлумачыць, што сьвінагадоўля ў калгасе зьяўляецца аднэй з прыбытковых галін гаспадаркі, трэба абавязкова палепшыць догляд жывёлы, арганізаваць прэміяваньне тых калгасьнікаў і калгасьніц, якія даглядаюць сьвіней. Неабходна значна палепшыць адкорм, узьняць эфэктыўнасьць адкорму і стварыць кармовую базу.

Ступень падрыхтоўкі да веснавой сяўбы не забясьпечвае таго, каб веснавая пасеўная кампанія была праведзена пабальшавіцку. Нездавальняюча рамантуецца сельска-гаспадарчы інвэнтар, кепска ідзе засыпка насенных фондаў і надзвычайна слаба праходзіць загатоўка насеньня. Падрыхтоўку да сяўбы трэба неадкладна ўзмацніць і забясьпечыць бальшавіцкае правядзеньне другой калгаснай вясны.

У нас справа з насеньнем кармовых траў і гародных культур у гэтым годзе настолькі цяжкая, што калі мы не скарыстаем усіх магчымасьцяй для загатовак гэтых культур, мы можам сарваць праграму сяўбы траў і гародных культур і гэтым самым сарваць выкананьне заданьняў па арганізацыі гародаў і стварэньні кармовай базы.

Ня гледзячы на такое напружанае становішча, мы маем рад раёнаў, дзе справа насеннаводзтва зусім недаацэньваецца. Шкоднікі ў сваёй дзейнасьці адным з аб'ектаў шкодніцтва іменна бралі і насеннаводзтва, імкнуліся стварыць такія ўмовы, якія пазбаўлялі-б нас магчымасьці стварыць кармовую базу і арганізаваць неабходную колькасьць гародаў і г. д. Ня гледзячы на гэтыя цяжкасьці, мы павінны забясьпечыць станоўчае вырашэньне пытаньня насеннаводзтва. Сорамна ўвозіць з за мяжы і траціць валюту на такое насеньне, як рэдзька, капуста, пятрушка і інш. Мы самі павінны арганізаваць вырашчваньне гэтых культур у калгасах.

У рабоце па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы па арганізацыі калгаснага прыліву мы павінны ўзяць сапраўдныя бальшавіцкія тэмпы, па-баявому разгарнуць работу ў гэтым напрамку выкананьня задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі, вядучы бязьлітасную барацьбу з апартуністычнай практыкай, „лявацкімі“ загібамі ў калгасным будаўніцтве.

**ПАСЬПЯХОВАЕ ВЫКАНАНЬНЕ ПЛЯНУ ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ВАЖНЕЙШАЙ СУСТАЎНОЙ ЧАСТКАЙ ПЛЯНУ ТРЭЦЯГА ГОДУ ПЯЦІГОДКІ.**

# НА ЧАЛЕ КАЛГАСНАГА ПРЫЛІВУ

**ПАКЛАСЬЦІ КАНЕЦ АПАРТУНІСТЫЧНАЙ СТАЎЦЫ НА САМАЦЁК. МАЦНЕЙ АГОНЬ ПА КУЛАКУ І ЯГО АГЭНТАХ АПАРТУНІСТЫХ. ПАРТЫЙНЫЯ ЯЧЭЙКІ ПАВІННЫ ПА-БАЛЬШАВІЦКУ КІРАВАЦЬ КАЛГАСНЫМ ПРЫЛІВАМ.**

XVI зьезд УсеКП(б), які выпрацаваў праграму сацыялістычнага будаўніцтва, з ўсёй рашучасьцю падкрэсьліў неабходнасьць перабудовы партыйнай работы на вёсцы і ўмацаваньне партыйных ячэек. „Стварыць вясковую арганізацыю,—гаворыць сакратар ЦК УсеКП(б) т. Кагановіч, баяздольную ва ўсіх адносінах і ідэёва і арганізацыйна—вось самая баявая задача работы на вёсцы, а рэарганізацыя акруг гэтай справе паможа ў значнай меры. Бяз гэтага мы ня справімся з задачай сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі“.

Мы ўступілі ў пэрыод перамог і разгорнутага будаўніцтва сацыялізму ў СССР, што выклікае яшчэ больш жорсткае абвастрэньне клясавай барацьбы. Ліквідуемае кулацтва як кляса, на базе суцэльнай калектывізацыі, бяз бою сваіх позыцый не здае. Таму перад партячэйкай на вёсцы ва ўсёй паўнаце паўстаюць вялізарнейшыя задачы: усямернае ўмацаваньне калгасу і далейшае разгортваньне калгаснага руху. Умацоўваць саюз рабочае клясы і вясковай беднаты з сярэднім сялянствам супроць кулацтва для забесьпячэньня на справе ажыцьцяўленьня палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

Па-другое, рашаючае значэньне ў справе пасьпяховага выкананьня задач, якія пастаўлены нашай партыяй, гэта—згуртаваньне ўсіх камуністых вакол Ленінскага ЦК і самай актыўнай бязьлітаснай барацьбы з адхіленьнямі ад генэральнай лініі, барацьбы на два фронты—супроць правых—гэтай кулацкай агентуры партыі і „левакоў“.

Шмат якія партячэйкі перабудавалі сваю работу ў адпаведнасьці з дырэктывамі партыі і з посьпехам спраўляюцца з пастаноўленымі перад вясковымі парторганізацыямі задачамі. Гэтыя партячэйкі ў калгасах зрабіліся сапраўднымі апорнымі пунктамі калектывізацыі. Прывядзем некалькі прыкладаў.

### Насовіцкая партячэйка
*(Гомельскі раён)*

На чале гэтай ячэйкі зусім нядаўна стаялі правыя апартуністыя, якія ігнаравалі арганізацыю батрацтва і беднаты па-за калгасам, як я сваім „кіраўніцтвам“ давялі калгас „Новы Шлях“ да развалу. Але пасьля зьмены апартуністычнага кіраўніцтва, калі кулацкія агенты былі выкінуты з партыі, а на чале партячэйкі і калгасу былі пастаўлены сапраўдныя рулявыя, тады зусім зьмянілася справа.

Новае кіраўніцтва забясьпечыла бальшавіцкую перабудову работы ячэйкі. Партячэйка павярнулася тварам да ўнутрыкалгаснага будаўніцтва і павяла бальшавіцкае змаганьне за замацаваньне калгасу *„Новы Шлях“* і за новы прыліў у калгасы.

Згуртаваўшы навокал сябе калгасны батрацка-бядняцкі актыў і замацаваўшы калгасную гаспадарку, ячэйка павяла змаганьне за бальшавіцкае правядзеньне падрыхтоўкі да веснавой сяўбы. Насовіцкія камуністыя арганізавалі новы прыліў у калгасы. У калгас *„Новы Шлях“ улілося каля 50 гаспадарак.* У вёсцы Лагуны вярбоўшчыкі калгасу „Новы Шлях“, пад кіраўніцтвам камуністых, разам з камсамольскай ячэйкай, арганізавалі новы калгас імя X зьезду ЛКСМБ, які яднае каля 50 бядняцка серадняцкіх гаспадарак. Так, Даўгаполаў—25-ці тысячнік, які абраны старшынёй Лагунскага калгасу, паказаў свае арганізатарскія здольнасьці ў кіраўніцтве і замацаваньні новага калгасу.



Калгасьнікі-партыйцы з беспартыйнымі за вучобай.

Пад кіраўніцтвам партячэйкі Лагунская бедната, сцэмантаваная ў моцны актыў, паказвае бліскучыя прыклады работы. Бедната прымусіла кулацкія і заможныя гаспадаркі цалкам выканаць цьвёрдыя заданьні. Пры перавыбарах сельсавету прайшлі тыя кандыдатуры, якія раіла партячэйка сумесна з беднатой. Па ініцыятыве беднаты быў арганізаваны чырвоны абоз па выкананьню хлеба-і бульбанарыхтовак, дзякуючы чаму выканана 180 проц. пляну па нарыхтоўкам.

Насовіцкія камуністыя дабіліся поспехаў у бязьлітаснай барацьбе супроць кулака і яго агентуры ў выніку бальшавіцкага ажыцьцяўленьня генэральнае лініі нашае партыі.

Насовіцкая партячэйка мабілізавала калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы на баявое правядзеньне падрыхтоўкі да веснавой сяўбы. Яе бальшавіцкая работа зьяўляецца лепшай гарантыяй выкананьня плянаў па калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у Насовіцкім сельсавеце.

### Майская партячэйка

*(Жлобіскі раён)*

Майская ячэйка КП(б)Б таксама арганізавала батрацка-бядняцкія масы на барацьбу за ажыцьцяўленьне праграмы трэцяга рашаючага году пяцігодкі па калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Партячэйка разгарнула вялікую растлумачальную работу сярод калгасьнікаў і аднаасобнікаў Майскага сельсавету аб падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Гэтую работу ячэйка ўвязвае з рашэньнямі ЦК і ЦКК УсеКП(б) і ЦК і ЦКК КП(б)Б, якія (пастановы) партыйцы растлумачваюць калгасьнікам і аднаасобнікам-беднякам і серадннякам.

У выніку гэтага партячэйка дабілася вялікіх перамог у барацьбе за разгортваньне калектывізацыі і сапраўды стала на чале новага калгаснага прыліву. Майскі сельсавет становіцца на шлях суцэльнай калектывізацыі: за апошні час амаль уся вёска Майская і палова вёскі Дзяніскавічы ўступілі ў калгас „Расьсьвет-Пераможца“.

Калгасьнікі з калгасу „Расьсьвет-Пераможца“, арганізаваныя ў групу вярбоўшчыкаў, пад кіраўніцтвам партячэйкі, растлумачваюць беднякам і серанякам—аднаасобнікам посьпехі свайго калгасу і пастановы аб'яднанага пленуму ЦК па пытаньню калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Калгасьнікі—пераможцы дабіліся вялікіх посьпехаў. Яны заключылі сацыялістычны дагавор з калгасам імя Х-годзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі (Кароткавічы) на лепшую і хутчэйшую падрыхтоўку да веснавой сяўбы і бальшавіцкае яе правядзеньне.

Калгас „Расьсьвет-Пераможца“ ўзяў на сябе абавязкі: уцягнуць у калгас аднаасобнікаў-батракоў, беднякоў і сераднякоў ня менш 20 процантаў. Выпрацаваць вытворчы плян на 1931 год, выпаўніць яго на 100 проц., падняць ураджайнасьць на 15 процантаў шляхам сартаваньня і пратручваньня насеньня; правядзеньне пасева на 50 проц. радавымі сеялкамі, вывезьці гною і торфу на 120 гектараў пасеўнай плошчы. Калгас бярэ на сябе абавязак сваячасова ўбраць і абмалаціць хлеб і здаць дзяржаве 85 тон лішкаў хлеба.

*Па жывёлагадоўлі* калгас мяркуе прарабіць наступнае: усю буйную рагатую жывёлу зьмясьціць у цёплыя хлявы, *павялічыць стада на 50 галоў* і прадукцыйнасьць статку на 10 проц. Давесьці матачны статак сьвіней да 100 галоў за лік натуральнага прыросту і павялічыць колькасьць вытворцаў да 8 штук. Акрамя гэтага мяркуецца пабудаваць гумно, хлеў на 100 галоў, лазьню і артэзіянскую студню; скончыць пабудову двух новых жыльлёвых памяшканьняў і сьвінарнік. Матэр'яльнае становішча калгасьнікаў у 1931 г. у параўнан ні з мінулым годам палепшыцца на 20 процантаў.

Дзякуючы ўзорнай працы Майскай партячэйкі калгас „Расьсьвет-Пераможца“ па-бальшавіцку ўступіў у рашаючы трэці год пяцігодкі.

### Партячэйкі Лоеўскага раёну

Асобныя партячэйкі Лоеўскага раёну ўпарта змагаюцца за разгортваньне калектывізацыі і падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.

Пад кіраўніцтвам партячэек калгасьнікі вярбоўшчыкі з лепшых калгасаў—стварылі ініцыятыўныя групы, якія яднаюць 158 гаспадарак. Акрамя таго вярбоўшчыкамі арганізавана 7 новых калгасаў і 2 таварыствы па супольнай апрацоўцы зямлі. Уноўарганізаваныя калгасы яднаюць больш 200 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У існуючыя калгасы ўліліся 225 новых гаспадарак з беднякоў і серадня коў.

Паасобныя сельсаветы пад кіраўніцтвам партячэек дабіліся вялікіх посьпехаў у справе калектывізацыі. Напрыклад, Пярэдзільскі сельсавет калектывізаваны ўжо на 50 процантаў гаспадарак, Ручаеўскі на 39,3 проц. Уборкаўскі на 31,1 проц. і інш. Гэтыя сельсаветы паказалі ўдарныя тэмпы па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы і па разгортваньню калектывізацыі.

На дасягнутых посьпехах партячэйкі ня спыняюцца. Вядзецца ўпартая работа за новыя перамогі і дасягненьні ў справе калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак раёну ў сувязі з падрыхтоўкай да веснавой сяўбы.

### Слабодзкая ячэйка

*(Мазыршчына)*

Партыйная ячэйка прарабіла вялікую работу па мабілізацыі актыўнасьці батрацкіх і бядняцкіх мас і дабілася арганізацыі двух новых калгасаў у Слабодзкім сельсавеце. Кулак прымаў усе меры каб разбурыць маладыя, не ўмацаваныя яшчэ калгасы. Але дарма, партячэйка сваёй работай згуртавала вакол сябе моцны батрацка-бядняцкі актыў, які дапамагае ячэйцы ў штодзеннай працы. Дзякуючы гэтаму арганізаваныя калгасы ўзмацніліся і прыцягваюць да сябе ўвагу бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

Пад кіраўніцтвам Слабодзкіх камуністаў вярбоўшчыкі арганізавалі новы прыліў у калгасы. Слабодзкая партячэйка добра ўсвоіла рашэньні нашай партыі аб сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі, аб разгортваньні работы сярод бядняцка-серадняцкіх мас—аднаасобнікаў і стала на чале новага магутнага калгаснага прыліву. Цяпер у гэтым сельсавеце пад кіраўніцтвам партячэйкі батрацтва і бедната задаюць тон ва ўсёй рабоце. Замацаваны саюз рабочае клясы калгасьнікаў і беднаты з серадняком.

У выніку бальшавіцкай работы слабодзкіх камуністых калгасы вырасьлі, пашырыліся і ўмацаваліся. Паступаюць усё новыя і новыя заявы аб уступленьні ў калгасы. Гэтых посьпехаў ячэйка дабілася ў бязьлітаснай барацьбе з кулаком, у барацьбе з агентурай кулака—правымі ўхілістамі.

Але ёсьць у нас і такія партыйныя ячэйкі на вёсцы, якія зусім слаба ўсьвядомілі пастановы нашай партыі, дзякуючы таму адстаюць ад сучасных нашых тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, ня кіруюць усё ўзрастаючым калгасным рухам, плятуцца ў хвасьце.

Узяць вось хаця-б Дудзіцкую партячэйку, Мазырскага раёну. Гэтая ячэйка зусім нічога ня робіць для замацаваньня маючыхся ў сельсавеце 6 калгасаў і арганізацыі новага прыліву ў калгасы. Напрыклад, калгас імя Калініна, які зьяўляецца старэйшым у гэтым сельсавеце, да гэтага часу яшчэ не абгаварыў парадку разьмеркаваньня ўраджаю, і калгасьнікі ня ведаюць яшчэ вынікаў свайго гаспадарчага году. Ячэйка аб гэтым ведае і ніколі нават не абгаварыла гэтае пытаньне.

Партячэйка зусім не займалася пытаньнем выяўленьня кулацкіх гаспадарак для індывідуальнага абкладаньня. Дзякуючы чаму цьвёрдыя заданьні па загатоўкам атрымалі маламоцныя серадлякі, — напрыклад, Базыль Кіцук, з в. Смалянка, мае каня, карову, паўтары гектары зямлі на 6 едакоў, атрымаў цьвёрдае заданьне, таксама і Булаўка Сымон—між тым, як некаторыя з кулацкіх гаспадарак засталіся ў баку ад цьвёрдых заданьняў. Выступаючы на агульных сходах вёскі некаторыя камуністы гэтай ячэйкі заяўляюць:

— Калектывізацыю ў нас правесьці пакуль што немагчыма з прычыны таго, што ня так даўно праведзена ў нас зямляўпарадкаваньне.

Член ячэйкі Пінкевіч працуе сакратаром сельсавету, лічыцца членам калгасу імя Калініна, але ніякага ўдзелу ў жыцьці калгасу ня прымае.

Усе гэтыя факты дудзіцкіх „камуністых“ зьяўляюцца лепшымі казырамі ў руках кулака, які вядзе шалёную работу, каб сарваць калектывізацыю.

Там, дзе вясковыя партыйныя ячэйкі праводзяць жорсткую няпрымірымую барацьбу з кулацкай агентурай у партыі—правымі ўхілістымі і „левакамі“—і забясьпечваюць выкананьне пастаноў XVI зьезду ЎсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б, там мы маем новыя хвалі калгаснага прыліву, там партыйныя ячэйкі стаяць на чале калектыўнага руху.

Партыйныя ячэйкі павінны добра ўразумець, што аднэй з галоўнейшых умоў завяршэньня пабудовы фундамэнта сацыялістычнае экономікі Савецкага саюзу, зьяўляецца выкананьне пляну калектывізацыі на 1931 г.

Выкананьне пастаўленых партыяй задач па калектывізацыі будзе забясьпечана пры ўмове самай жорсткай і рашучай барацьбы супроць правых—гэтай кулацкай агентуры ў радох КП(б)Б, так і супроць „лявацкіх“ загібаў.

Арганізуючы батрацка бядняцкія масы аднаасобнікаў, мабілізуючы масы калгасьнікаў шляхам стварэньня вярбовачных груп і ўмацоўваючы саюз рабочае клясы калгасьнікаў і беднаты з серадняком—партыйныя ячэйкі павінны стаць на чале новага прыліву ў калгасы і павесьці гэтыя масы на штурм самацёку ў калгасным руху і ліквідацыі апошняга аплоту капіталізму—кулацтва на базе суцэльнай калектывізацыі.

Рашучае, упартае змаганьне за выкананьне праграмы трэцяга рашаючага году пяцігодкі патрабуе бальшавіцкіх тэмпаў. Вучыцца трэба ў тых партячэек, якія паказалі сапраўдныя прыклады ўзорнай барацьбы за калектывізацыю і выкананьне пяцігодкі за чатыры гады. **С. і Г.**

# Шырэй фронт калектывізацыі

„ДА КАНЦА ПЯЦІГОДКІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ СССР У АСНОЎНЫМ ПАВІННА БЫЦЬ СКОНЧАНА"

**Сталін**

## РАПАРТ КАМУНЫ ІМЯ БВА X ЗЬЕЗДУ САВЕТАЎ БЕЛАРУСІ

X усебеларускі зьезд саветаў, члены камуны імя Беларускай вайсковай акругі сустрэлі вялізарнейшымі перамогамі на фронце барацьбы за сацыялістычную гаспадарку. Гэтыя перамогі асабліва ярка відны на фоне тых труднасьцяй, якія спаткалі былыя 115 байцоў двух № дывізій, калі ўвосень 1929 году прышлі на дзікае палескае балота будаваць буйную калектыўную гаспадарку.

15 месяцаў прайшло з таго часу. Сёньня мы можам цьвёрда і з упэўненасьцю заявіць, што з посьпехамі спраўляемся з адказнымі задачамі, якія пастаўлены перад намі партыяй.

На былых балотах і пустырох пабудаваны 6 вялізарных жылых дамоў, школа, амбуляторыя, лазьня, пральня, сталоўка, сьвіран, вялікі хлеў на 400 штук буйнай рагатай жывёлы, сьвінарнік на 200 сьвіней, цялятнік і рад іншых будынкаў. Пабудаваны і пушчан паравы млын, пры якім абсталяваны дзьве крупадзёркі, сукнавалка і алейнік.

Намі таксама пабудаваны лесапільны завод, цагельня, якая дасьць каля 1 міл. цэглы. Мы ўжо дасягнулі вялікіх посьпехаў у арганізацыі гаспадаркі. Камуна мае 429 штук буйнай рагатай жывёлы, 100 сьвіней, 127 авечак, 74 цялят, 69 коняй.

Камуна будуе сваю гаспадарку на аснове машыннай тэхнікі. Яна мае 5 трактароў (ня лічачы 15 трактароў МТС), два грузавікі і рад сельска-гаспадарчых машын. Абсталявана рамонтная майстэрня з былых чырвонаармейцаў, падрыхтаваны трактарысты і шофэры. Камуна радыёфікавана: усе будынкі і хлявы асьвятляюцца электрычнасьцю.

Па-баявому распачалі падрыхтоўку да другой бальшавіцкай вясны. Камунары высунулі сустрэчны плян, якім абавязаліся пашырыць плошчу засеваў да 1.200 *га* замест 1.075 *га*, прадугледжаных заданьнем. Замест некалькіх гектараў у мінулым годзе—мы сёлета будзем сеяць пад каноплі 200 *га*. Плян ужо даведзены да кожнага камунара. Уся пасеўная плошча разьбіта на 6 вучасткаў, к кожнаму вучастку прымацавана спэцыяльная брыгада. Ужо скончан рамонт трактароў, калёс і сельска-гаспадарчага інвэнтару.

*Вынікам бальшавіцкай барацьбы камунараў за разгортваньне калгаснага руху зьяўляецца арганізацыя 5 буйных калгасаў у вакалічных вёсках і сельсаветах.*

За апошнія 2 месяцы ў сувязі з ударнай падрыхтоўкай да сяўбы ў нашу камуну ўступіла 38 новых членаў. Вялікая хваля прыліву адзначаецца і ў суседніх калгасах, арганізаваных камунай. Толькі ў калгас „Дружба" ўступіла 50 новых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Мы аказваем вялікую дапамогу навакольным калгасам, аднаасобнікам—беднякам і сераднякам. Гэтым самым мы

яшчэ больш спрыяем разгортваньню калектывізацыі.

Разгортваючы сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, упарта змагаючыся з выпадкамі недысцыплінаванасьці, паляпшаючы арганізацыю працы (усе работы пераведзены на зьдельшчыну), мы вядзем барацьбу за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Мы лічым неабходным узмацніць працу па палепшаньню абарназдольнасьці краіны і ўсе становімся ў рады актыўных членаў Асоавіяхіму. У фонд абароны перадаем 634 руб., якія даў спэцыяльны наш арганізаваны тыднёвік.

Мы камунары абязуемся Х зьезду саветаў—гаспадару Савецкай Беларусі па ўдарнаму правесьці другую бальшавіцкую вясну, змагаючыся за суцэльную калектывізацыю і ліквідацыю кулацтва як клясы на гэтай базе, за завяршэньне пабудовы падмурку сацыялістычнай эканомікі ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі.

**КАМУНАРЫ КАМУНЫ ІМЯ БВА.**

# НАШЫ ДАСЯГНЕНЬНІ

Мы калгасьнікі калгасу „Пераможац“ Рагачоўскага раёну пасьля аднагаловай сваёй працы ў калгасе на аснове Ленінскай палітыкі партыі, пад непасрэдным кіраўніцтвам мясцовай партарганізацыі рапартуем Х Усебеларускаму зьезду аб наступным:



Бядняк-аднаасобнік піша заяву аб уступленьні ў колгас.

1) На 1-е лютага 1931 г. у калгасе маецца 35 сямей, якія складаюць 112 едакоў.

2) За адзін год калгас вырас з 14 да 35 гаспадарак.

3) Пры недахопе рабочых рук у калгасе, мы з надзвычайным напружаньнем сіл, пры дапамозе грамадзкіх арганізацый сельскагаспадарчыя кампаніі мінулага году правялі здавальняюча. У веснавую сяўбу мы засеялі бульбы 34 *га*, аўса 54 *га*, ячмяню 5 *га*, віі:і 12 *га* і г. д. Уборачную кампанію правялі сваячасова і здавальняюча.

4) Валавая прадукцыя нашага калгасу ў 1930 г. складае 31.281 р. 19 к., чысты прыбытак складае 13 311 р. 32 к. З чыстага прыбытку згодна разьмеркаваньня вылучана ў непадзельны капітал 1.331 р.

5) У выніку разьмеркаваньня ўраджаю паміж калгасьнікамі, мы атрымалі аплату аднэй процантнай адзінкі па 90 кап., на кожны рубель абагуленай маемасьці прыпадае 55 кап. і на кожнага непрацаздольнага прыходзіцца 12 руб., што на сям'ю ў 10 душ з 3 працаздольнымі (Шчарбакоў Дзяніс) прыпадае 715 р. 20 к., а на сям'ю з 3 душ з 3 працаздольнымі (Голубава Арына) прыпадае 840 р. 19 к. Прыбытак гэтых гаспадарак, а таксама і ўсіх калгасьнікаў значна большы ў

параўнаньні з тым прыбыткам, які мы мелі да ўступленьня ў калгас.

6) З атрыманага ўраджаю здадзена дзяржаве збожжа 189 цэнтн., бульбы 1.083 цэнтн., 10 кароў, 5 сьвіней, 3 цялят, 1 авечка.

У далейшай нашай працы абяцаем X зьезду Саветаў зьнішчыць усе прарывы і недахопы ў працы мінулага году.

7) Другую бальшавіцкую вясну абяцаем правесьці пад лёзунгам поўнага выкананьня пляну веснавой сяўбы, асабліва пашыраючы плошчу па пасевам тэхнічных культур і кармавых. Плянам веснавой сяўбы мы павялічваем плошчу пад бульбай з 34 *га* да 43 *га* ці на 23 процанты, плошчу пад лёнам на 540 проц., пад вікай на 50 проц., пад канюшынай на 180 проц., засяваць сілосных культур 4 *га*, падняць ураджайнасьць на 12 проц.

Па жывёлаводзтву павялічыць стада кароў з 31 штукі да 52, пакінуць на гадоўлю 11 цялят, колькасьць сьвіней павялічыць з 4 да 20 штук і авечак з 7 да 14 штук.

Пабудаваць наступныя будынкі: кароўнік на 100 галоў, сьвінарнік на 100 штук, навес для сельскагаспадарчага інвэнтару, гумно, 2 амбары і сіласную яму на 100 тон сіласу.

На аснове нашых дасягненьняў, *мы абяцаем зьезду Беларусі арганізаваць новы моцны прыліў*, каб кожны калгасьнік завербаваў аднаго аднаасобніка, праводзячы гэту працу на аснове Ленінскай палітыкі партыі, даючы рашучы адпор правым апартуністым і „левым“ загібшчыкам, стварыўшы моцны фундамант для суцэльнай калектывізацыі, на аснове якой ліквідуем кулацтва як клясу.

Няхай жыве суцэльная калектывізацыя, якая праводзіцца пад кіраўніцтвам УсеКП(б).

**Калгасьнікі калгасу**
**„Пераможца“**

# 38 ПРОЦАНТАЎ

За апошні час Гараднічанскі сельсавет, які лічыцца самым большым сельсаветам у раёне—мае вялікі зрух у бок пашырэньня калгаснага руху. Гэты зрух маецца дзякуючы актыўнай працы мясцовай партыйнай ячэйкі, якая па-бальшавіцку праводзіць сваю работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, а таксама ячэйка вядзе бязьлітасную барацьбу з агентамі кулацтва—правымі і „левымі“ апартуністамі.

Дзякуючы такой рабоце, мы па сельсавету маем 4 уноўарганізаваных калгасы з 89 гаспадарак, а ўсяго на тэрыторыі сельсавету *8 калгасаў—215 гаспадарак і 70 адзіночак, што складае 38 процантаў усіх гаспадарак у сельсавеце.*

Адначасова з гэтым па ўсіх вёсках створаны ініцыятыўныя групы па арганізацыі калгасаў, якія ў некаторых мясцох ператвараюцца ў арцелі, а да іх далучаюцца новыя гаспадаркі.

Падрыхтоўка да веснавой сяўбы праводзіцца ў цеснай увязцы з пашырэньнем калгаснага руху.

Па калгасах падрыхтоўка да сяўбы праходзіць добра. Ударным парадкам праходзіць ачыстка насеньня, ствараюцца насенныя фонды, рамантуецца сельскагаспадарчы інвэнтар. Па рамонту інвэнтару і сельска-гаспадарчых машын працуюць арганізаваныя ўдарныя брыгады кавалёў.

Пляны веснавой сяўбы даведзены да кожнага калгасу і вёскі. Пляны прадугледжваюць *пашырэньне пасяўной плошчы па сельсавету на 23 процанты.*

Праца па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы і калектывізацыі праходзіць добра толькі таму, што партыйная ячэйка змагла арганізаваць гэтую работу і належным чынам кіруе ёй. Пад кіраўніцтвам парт'ячэйкі актыўна працуюць па калектывізацыі камсамольцы, асьветнікі і ўвесь вясковы актыў.

*(Шклоўскі раён).* **Калгасьнік.**

# ЗАБЯСЬПЕЧЫМ ПРЫЛІЎ У КОЛГАСЫ

Чэрыкаўскі раён зьяўляецца адным з раёнаў, дзе было шмат перагібаў у мінулую вясну ў адносінах калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарах.

Дзякуючы толькі актыўнай працы з боку некаторых працаўнікоў раёну, асабліва 25-тысячнікаў—было ўтворана па раёну 27 маленькіх калгасаў. Гэтыя маленькія калгасы зьяўляюцца тымі расткамі, навокал якіх павінна разгортвацца калгаснае будаўніцтва па раёну.

Посьпехі ў працы калгасаў зьяўляюцца лепшымі агітатарамі за калектывізацыю. За адзін год свайго існаваньня калгасы, ня гледзячы на шэраг цяжкасьцяй і зробленых недахопаў—маюць даволі значныя дасягненьні, якія кажуць аб перавагах калектыўнай гаспадаркі перад дробнай аднаасобнай гаспадаркай.

У калгасе „Сталін" (Горкаўскі сельсавет) адзін калгасьнік казаў: „мне патрэбна на маю гаспадарку 80 пуд. збожжа інакш я не пражыву", а калі пры разьмеркаваньні ўраджаю яму прыпічвалася атрымаць ня 80 пуд. а 187, дык апошні задаволена адказаў: „калі так, дык трэба яшчэ арганізаваць чырвоны абоз і лішкі збожжа здаць дзяржаве".

Наогул справаздачная кампанія і разьмеркаваньне ўраджаю сярод калгасьнікаў, шмат каго пераканала ў перавазе калектываў над асобнымі гаспадаркамі.

Па раёну арганізавалася 5 новых калгасаў. Маецца прыліў аднаасобнікаў у калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак 56 і гэтымі днямі яшчэ прынята ў калгас „Чырвоная Зорка" 3 гаспадаркі: „Чырвоная Заря" 1 гаспадарка, і „Чырвоны Гігант" 2 гаспадаркі.

Але на гэтых дасягненьнях нельга застанаўлівацца. Трэба памятаць, што „к канцу пяцігодкі калектывізацыя СССР у асноўным павінна быць скончана" (Сталін). Каб выканаць гэта, трэба не спадзявацца на самацёк (а гэта ў раёне ёсьць), а трэба разам з правядзеньнем вясеньняй пасеўнай кампаніі замацоўваць існуючыя калгасы, падняць на вышэйшы ўзровень хвалю калгаснага прыліву, мабілізаваць актыўнасьць бядняцка-серадняцкіх мас і накіраваць яе на арганізацыю новых калгасаў па раёну.

Распаўсюдзіць трэба практыку арганізацыі ў калгасах вярбовачных камісій, ініцыятыўных груп у паселішчах і г. д., прыцягваючы да гэтай працы ў камісіі камсамольцаў і дарослых калгасьнікаў, якія простай гутаркай з селянінам упэўняць яго ў неабходнасьці ісьці працаваць у калгас.

У калгасе „Іскра", Галінскі сельсавет, маецца 13 партыйцаў і 36 камсамольцаў, але прыліву ў калгас няма, дзякуючы зусім слабай працы партыйцаў і камсамольцаў у гэтым напрамку. Партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі раёну трэба сваю працу падпарадкаваць пытаньням калектывізацыі і падрыхтоўкі да вясеньняй сяўбы, адначасова вядучы бязьлітаснае змаганьне з праявамі правай практыкі.

**Юрка Снытка**

---

**„Бядняк і серадняк—аднаасобнік, які дапамагае кулаку змагацца з калгасамі і падрывае калгаснае будаўніцтва, ня можа быць названы саюзьнікам тым больш апорай рабочай клясы—ён на справе саюзьнік кулака"**

**(з пастановы VI зьезду саветаў СССР).**

# Ударнікі калгасных палёў

(*Нарыс*)

„Чырвоны Артылерыст"—гэтым імем называецца адна з лепшых камун на Полаччыне. Пра камуну ведае шырокая ваколіца. Сяляне паважаюць камунараў і з гонарам адклікаюцца аб іх.

— Во, гэта, дык сапраўдныя камунары, з імі сьвет можна перавярнуць... Будуюць гаспадарку што называецца!..

— У камуне ёсьць на што паглядзець, падзівіцца, відаць людзі з сур'ёзнасьцю адносяцца да сваёй справы, ажыцьцяўляюць пастаўленую мэту...

Сур'ёзны падыход, упартасьць і ўпэўненасьць якраз і адчуваюцца ва ўсёй рабоце камуны.

У гісторыі камуны маюцца гераічныя эпізоды, характарызуючыя адданасьць сацыялістычнай перабудове вёскі з боку камунараў.

Тры гады таму назад 12 асоб, дэмабілізаваных чырвонаармейцаў-артылерыстых, зьявіліся ініцыятарамі камуны. З жыльлёвымі памяшканьнямі было надта дрэнна, прыходзілася начаваць на сенавале. Ваколічныя кулакі вялі жорсткую атаку на камунараў, настрайваючы беднякоў і серадняк оў супроць камуны. Толькі артылерыстыя ня гублялі надзей, памятаючы наказы, якія давала Чырвоная армія пры провадах дэмабілізаваных чырвонаармейцаў.

— Патрэбна трымацца, як-бы там ня стала,—гаварыў тады сваім таварышом цяперашні старшыня камуны тав. Феданенка,—самі ведаеце, што нічога ня будуецца за адзін дзень. Гаварылі-ж нам пра цяжкасьці, якія сустрэнуцца на вёсцы пры ажыцьцяўленьні нашай мэты. І вось патрэбна перамагчы...

— Дакуль-жа цяжкасьці гэтыя трэба цярпець?—баязьліва падаваў голас найбольш спалоханы перашкодамі камунар.—Кулаччо вось рыхтуе глебу для сябе, шкодзіць нам. Мімаволі пачнеш палохацца...

Але бадзёрыя галасы спынялі такое выступленьне. Большасьць камунараў гаварыла зусім інакш:

— Не распускай нюні, малавер!..

— Што скажа пра нас камандзір артпалка, калі дачуецца, што мы ня выканалі сваіх абяцаньняў...

— Сорам будзе, ганьба нам!..

— Так,—падагульваў спрэчкі Феданенка,—нельга паддавацца, таварышы, паніцы. Пераможам усе цяжкасьці, толькі вось дружней трэба ўзяцца, ды паднацісьнуць на слабыя месцы!..

Адзін з самых перадавых стойкіх камунараў тав. Паўлаў першы падтрымліваў Феданенку.

Калі камунары сабралі сродкі на куплю першае каровы, дык гэта было сапраўдным сьвятам. Вылучылі спэцыяльных таварышоў для закупкі каровы.

— Дзівіцеся, хлопцы,—гаварыў тады Феданенкаў,—во, што знача гаспадарскае вока, бачыце якая „буранка"! Гэта падмурак толькі, праз год які будзем мець цэлае стада.

— Карова на вялікі палец—пацьвярджалі астатнія камунары.

А кулацтва ня спыняла шалёную дзейнасьць, падгаварваючы адну сялянку забіць Феданенка і Паўлава. Але гэты ганебны ўчынак ня ўдаўся.

У адказ на такія кулацкія плёткі камунары ўзмацнілі масавую работу сярод акаляючага беднядцка-серадняцкага насельніцтва. І масавая работа дала свае вынікі. Пачаўся прыліў у камуну. Прыходзілі беднякі з прымежных вёсак і прасілі:

— Прымеце да сябе!.. Згодны сумесна з вамі жыць і працаваць...

І камунары прымалі ў свае шэрагі, уважліва прыглядаючыся да іхняга са-

цыяльнага твару. Баяліся, каб не пралез клясавы вораг і не пачаў падрываць камуну знутры. З сабой аднаасобнікі, прышоўшыя ў камуну, прывезьлі такуюсякую маемасьць. Камунары ўзрадваліся. Выразна відаць было, што ініцыятыва дэмабілізаваных чырвонаармейцаў не прападзе дарэмна, а дасьць самыя плённыя вынікі. З гэтага, менавіта, часу і паўстала пытаньне найбольш шырокага і мэтазгоднага разьмеркаваньня працы. Праўленьне на спэцыяльна скліканым пашыраным паседжаньні распрацавала праект разьмеркаваньня абавязкаў. Праект абгаварылі і зацьвердзілі на агульным сходзе. Кожнай брыгадай кіраваў ініцыятар камуны, загартаваны барацьбой за існаваньне камуны.

Феданенка гаварыў:

— Важна, таварышы, каб цяпер не падкачаць, не падарваць аўтарытэт камуны. Брыгады вылучылі, патрэбна павесьці працу па-ўдарнаму, па-бальшавіцку і тады мы даб'емся такіх посьпехаў, што ўся ваколіца зьдзівіцца...

— Справімся з абавязкамі, таварыш старшыня,—упэўнена адказваў старэйшы брыгадзір па паляводзтву тав. Сымон Спанкоў,—не падкачаем, раз сілы ўжо ёсьць...

— Ясная справа,—дадаваў Паўлаў,— пастанова праўленьня камуны для нас тое ж самае, што для чырвонаармейца загад камандзіра.

Камунарскія брыгады працавалі шчыра. Адразу было відаць, што тут ідзе арганізаваная праца калектыўнай сілы. Праўленьне набывала тым часам маемасьць. Набылі два трактары, стада кароў павялічылася. Выраслі будынкі для жывёлы.

Камуна пачала расьці, узмацняцца, адбудоўвацца. Надышлі інакшыя будні, прасякнутыя гарачай напружанай працай па будаўніцтву калектыўнага жыцьця, не падобнага на тое, якое цячэ на суседніх хутарох, у вёсках з раскіданымі маленькімі хацінкамі з вечнай бядотай і недахопамі. Гэтая напружаная праца не засталася бяз вынікаў.

Звычайны зімовы дзень распасьціраў асьвежаныя абдымкі над прасьцягам



Савецкія трактары на калгасныя палі (з Сталінградзкага заводу).



Афарбоўка колаў трактара.

палёў, над хатамі. Войстры мароз падрумяньваў шчокі, забіраўся за каўнер, садзіўся інеем на бараду. У гэты дзень ня толькі камунары зьбіраліся да клюбу, а нават аднаасобнікі з далёкіх вёсак ішлі ў камуну. Ды і як не пайсьці, калі на сходзе камунараў стаіць справаздача праўленьня і павінны пераабірацца члены праўленьня. Такія важныя пытаньні ніхто не жадаў прапусьціць. І на сход сабралася звыш 300 чалавек.

У клюбе было поўна народу.

Пад стольлю воблакам плаваў густы дым ад выкураных цыгарак. А за сталом, упрыгожаным чырвоным абрусом, ветліва ўхмыляўся Феданенка, радуючыся вялікай яўцы на справаздачна-перавыбарчы сход. Адчынілі сход кароткай уступнай прамовай; у прэзыдыум абралі і аднаго прадстаўніка ад аднаасобнікаў.

Феданенка атрымаў слова для справаздачы праўленьня камуны. Гаварыў камунарскі старшыня проста, па-звычайнаму, бяз выкрунгасаў. Голасам Феданенкі гаварылі факты і лічбы перамог камуны на фронце калектывізацыі, карэннай ломкі старых традыцый на вёсцы.

— За прайшоўшыя з часу існаваньня камуны тры гады мы вырасьлі так, як ня вырасла-б ніводная аднаасобная гаспадарка. Замест аднэй каровы, якую мы з такой пашанай сустракалі, сёньня — маем 175 кароў. Замест 12 чалавек наша камуна яднае 306 членаў. Плошча зямлі пашырылася да 885 *га*. 47 коняй і 2 трактары поўнасьцю забясьпечваюць камуну цягавай сілай. Ад сьвінаводзтва мы маем таксама надзвычайна вялікія посьпехі. Адзіны кныр, якога камунары так уважліва гадавалі, важыць 20 пудоў. Апроч-жа яго камуна мае 22 сьвіньні, 36 парасят. Пры камуне абсталявана кузьня, сталярная, шавецкая і кравецкая майстэрні, якія абслугоўваюць ня толькі камуну, але і суседнія вёскі.

*Ударныя брыгады, на якія разьбілі ўсю працаздольную сілу камуны, забясьпечылі камуне пасьпяховае выкананьне правадзімых гаспадарча-палітычных кампаній.* Наша камуна ідзе адна з першых па хлеба-загатоўках, па загатоўках ільну, па кантрактацыі. Асеньнюю сяўбу мы закончылі з посьпехам. Засеялі 140 *га* азімага жыта гатунковым насеньнем. Шырока разгорнута сацыял стычнае спаборніцтва і ўдарніцтва сярод камунараў. Мы дабіваемся, каб уся камуна стала ўдарнай, бо мы павінны выхаваць чалавека на абагуленай зямлі,—чалавека, за якім будучыня—ударніка калгасных палёў.

Феданенка гаварыў доўга. Кожны прысутны з цікавасьцю слухаў баявы рапарт старшыні камуны. І калі скончыў Феданенка, клюб абудзіўся доўгімі, незмаўкаючымі воплескамі. Гэта аплёдыравалі камунары, узрадаваныя сваімі дасягненьнямі, і аднаасобнікі, упэўненыя, што кулацкая хлусьня пра камуну сапраўды зьяўляецца клясава-варожай хлусьнёй, накіраванай на зрыў мерапрыемстваў партыі і савецкай улады.

У спрэчках апрача камунараў выступіў прадстаўнік райкалгассаюзу, які асабліва зацікавіў слухачоў нязвычайным для камунараў паведамленьнем:

— Райкалгассаюз унёс у сьпіс для прэміраваньня чатырох камунараў з „Чырвонага Артылерысту“. Гэтым камунарам дадзены наступныя характарыстыкі...

Прадстаўнік райкалгассаюзу спыніўся на хвілінку, агледзіў залю і пачаў чытаць характарыстыкі:

— *Феданенка.* Мае добрыя арганізатарскія здольнасьці, дзякуючы чаму ў камуне добра пастаўлена арганізацыя працы і працдысцыпліна. Карыстаецца аўтарытэтам ня толькі сярод камунараў, але і сярод акаляючага бядняцка-серадняцкага насельніцтва вёскі. Праводзіць цьвёрдае бальшавіцкае кіраўніцтва камунай, сваячасова рэагуючы на кожны недахоп...

*Паўлаў.* Першы ідэйны арганізатар камуны. Усе цяжкасьці ў першы час існаваньня камуны клаліся на Паўлава, які, не палохаючыся, узяўся арганізацыйна афармляць камуну з тым разьлікам, каб яна сумела правільна разьвівацца. Як і Феданенка—Паулаў карыстаецца вялікім аўтарытэтам... Далей ідзе *Крупко* Марыля. Прыкладная і актыўная ўдарніца ў камуне. За ўвесь час існаваньня камуны праводзіла высокую і сьвядомую працдысцыпліну, асабліва ў час уборачнай і пасеўнай кампаніі. Карыстаецца аўтарытэтам сярод жанчын-калгасьніц і не калгасьніц. І апошні—*Снапкоў*, старэйшы брыгадзір па паляводзтву. Мае добрыя здольнасьці ў арганізацыі паляводзтва. Дзякуючы яго ўмеласьці і кіраўніцтву, з поля ўсё было ўбрана сваячасова, ня гледзячы на велічыню плошчы засеву. Назву ўдарніка апраўдвае поўнасьцю, праяўляючы надзвычайна высокую працдысцыпліну.

— Хто, таварышы, хоча выказацца яшчэ?—запытваў старшыня сходу, але воплескі не давалі яму гаварыць.

Справаздачна-перавыбарчы сход поўнасьцю ахарактарызаваў становішча камуны. Выбары праўленьня адбыліся пры вялікай актыўнасьці камунараў. Абіралі лепшых ударнікаў-камунараў, якія і надалей маглі-б забясьпечыць камуне рост і ўдарнае выкананьне ўскладзеных задач.

*А на другі дзень у камуну пасыпаліся заявы ад аднаасобнікаў аб прыёме.*

Камуна, арганізаваная з 12 дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, герояў сёньнешняга дня, заваявала аўтарытэт. Паклёпы клясавага ворага атрымалі адпор, рассыпаліся, як мыльны пузыр, ударыўшыся аб неперамажныя факты дасягненьняў.

Але камунары „Чырвонага Артылерыста“ не застанаўліваюцца на дасягненьнях, якія маюцца сёньня. З набліжэньнем вясны праводзіцца шырокая падрыхтоўка да пасеўкампаніі. Па-ўдарнаму рамантуе кузьня сельскагаспадарчыя машыны. Ужо адсыпаны насенныя фонды. Трактары і плугі хоць сёньня гатовы выехаць падымаць калектыўныя палі.

Камуна рыхтуецца па-бальшавіцку сустрэць надыходзячую сяўбу. І сустрэне, бо *для камунараў няма тых вышынь, якіх нельга было-б узяць калектыўнымі сіламі.*

Баз. Румянец.

# Праверыць якасьць насеньня

Якасьць насеньня зьяўляецца адным з галоўных фактараў падвышэньня ураджайнасьці на раду з угнаеньнем, палепшаньнем апрацоўкі глебы і прымяненьнем іншых аграмерапрыемстваў у гаспадарцы. Ад палепшаньня якасьці насеньня падвышаецца ураджайнасьць на 20 і больш процантаў і, наадварот, нядобраякаснае насеньне значна паніжае ураджай, а ў некаторых выпадках не дае амаль ніякага ураджаю.

Таму, калі нават і дастатковая забясьпечанасьць насеньнем у веснавую сяўбу, але калі яно, скажам, на 20-30% няўсходжае, г. зн., што на 20-30 проц. пасеўкампанія ня выканана. Альбо, калі насеньне на 10-15 проц. пашкоджана галаўнёй, гэта таксама гаворыць аб тым, што зьніжэньне ураджаю будзе ня менш як на 10-15 проц.

### Фізычная якасьць насеньня

Па дадзеным кантрольна - насенных станцый БССР якасьць насеньня з кожным годам паляпшаецца, але-ж шмат бывае выпадкаў, калі ў прадажу пападае насеньне некандыцыйнае.

Вось прыклад. Па дадзеным Гомельскай кантрольна-насеннай станцыі з праверанага па сельска-гаспадарчай ужытнасьці насеньня некандыцыйнага была выкрыта наступная колькасьць (у процантах па вазе праверадых партый) у 1928 г.: авёс 20 проц., віка 20 проц., лубін 6,6 проц., сэрадэля 50 проц., канюшына 55 проц., лён 50 проц., буракі сталовыя 30 проц. У 1929 г.: авёс 20 проц., віка 8 проц., лубін 22,6 процантаў, сэрадэля 48 проц., канюшына 20 процан., лён 21 проц. і буракі сталовыя 17 проц.

Некандыцыйнасьць тлумачыцца галоўным чынам вялікай засьмечанасьцю насеньня. Прычым, з гэтых партый насеньне некандыцыйнае па чыстаце, магчыма было шляхам зернаачысткі давесьці да кандыцыйнага становішча. Значная-ж колькасьць насеньня з прычыны нізкай усходжасьці і вялікай вільготнасьці зусім ня прыгодна была для высеву і падлягае скарыстаньню на іншыя не пасеўныя мэты.

Асабліва дрэнна абстаяла і *зараз абстаіць справа з луб нам, сэрадэляй і вікай*, якія з прычыны вялікай вільготнасьці і дрэннага захоўваньня яшчэ задоўга да высеву псуюцца.

Усе гэтыя лічбы, з аднаго боку, гавораць, што насеньне з кожным годам паляпшаецца, а з другога боку, яны таксама падкрэсьліваюць, што значны яшчэ процант некандыцыйнага насеньня бывае і на нашым насенным рынку.

Калі параўнаць сярэднюю чыстату галоўных культур з гранічнымі нормамі кандыцый, устаноўленымі па БССР, то ўбачым, што толькі сацыялістычны сэктар—саўгасы і калгасы—дасягаюць гэтых гранічных і часткова сярэдніх норм, аднаасабовы-ж сэктар стаіць значна ніжэй. Вось якія лічбы сярэдняй чыстаты насеньня (па сэктарам) па галоўным культурам за апошнія 3 гады па БССР:

| Назва культур | Сярэдняя чыстата ў проц. | | | Гранічныя нормы НКЗБ на 1930 г. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Саўгасы | Калгасы | Індыв. сэктар | Мінімальн. | Сярэдняя |
| 1. Авёс | 96,2 | 94,3 | 92 | 94 | 96 |
| 2. Жыта | 95,9 | 93,8 | 92,2 | 95 | 97 |
| 3. Ячмень | 95,8 | 94 | 92 | 95 | 97 |
| 4. Канюшына | 84,9 | 86,3 | 76 | 90 | 95 |

Такім чынам, саўгасы маюць насенны матэр'ял вышэй гранічных норм, а авёс нават вышэй сярэдніх норм. У калгасах авёс па кандыцыям вышэй гранічных норм і па астатнім культурам набліжаецца да гранічных норм. Што-ж датычыцца аднаасабовага сэктару, як бачым, чыстата насеньня па ўсіх культурах значна адстае і ніжэй чыстаты насеньня сацыялістычнага сэктару.

*Некалькі застановімся на пашкоджанасьці канюшыны сарняком-павітухай.*

З пашырэньнем канюшынанасеньня больш распаўсюджваецца і спадарожнік яго—павітуха. Асаблівую шкоду прыносіць гэты сарняк у паўднёвай частцы

БССР, дзе ён лепш перазімоўвае, чым у паўночнай частцы, а адсюль мацней засьмечвае пасевы канюшыны. Назіраліся паасобныя выпадкі, калі пасевы канюшыны поўнасьцю былі засьмечаны павітухай, якая нішчыла канюшыну на ўсе 100 проц. Распаўсюджваецца гэты сарняк праз насеньне.

З усіх аналізаваных Гомельскай кантрольна-насеннай станцыяй зразкоў канюшыны (іх было да 260) пашкоджаных павітухай было:

У 1928 г.—55 проц., а па колькасьці партый—30%
„ 1929 „—16,5 „
„ 1930 „— 8,5 „

Такое зьніжэньне проценту зразкоў з павітухай, а адсюль значнае павышэньне якасьці насеньня канюшыны тлумачыцца тым, што ў 1929 г. у раёны загатовак завезена было шмат сартыровак-кускут, якімі ачышчаліся ўсе партыі насеньня канюшыны. Акрамя таго, дзякуючы правядзеньню Кантр.-насеннымі станцямі інспэктараваньня як улетку (палявая апрабацыя), так і зімой (лябораторны кантроль)—пытаньне аб барацьбе з павітухай было пастаўлена найбольш рашуча і канкрэтна як з боку земорганаў, так і загатоўчых арганізацый. Далейшая барацьба з павітухай шляхам сартаваньня насеньня канюшыны, спальваньне і запашка заражоных павітухай месц у пасевах і інш. дасьць магчымасьць зусім пазбавіцца ад гэтага вельмі шкоднага сарняка.

### Пашкоджанасьць галаўнёй

Па дадзеным Гомельскай кантрольна-насеннай станцыі сярэдні процант пашкоджаньня галаўнёй пасеваў Гомельшчыны ў 1929 годзе быў наступны: авёс „Залаты дождж“—5,8 проц., шацілаўскі—4,8 проц. і гігант—2,5 проц.

Па БССР з абсьледваных у 1929 годзе 158 саўгасаў Белсельтрэсту выкрыта было пыльнай галаўні ў аўсе:

| | % паражэньня | Лік саўгасаў | % % саўгасаў |
|---|---|---|---|
| 1. З мал. пашкодж. | ад 0—2 | 82 | 51,4 |
| 2. З значн. „ | 2—5 | 37 | 23,8 |
| 3. З вялікім „ | 2—10 | 23 | 14,5 |
| 4. З „ „ | 10—20 | 9 | 5,8 |
| 5. З „ „ | 20 і больш | 7 | 4,5 |

Сярэдні процант па саўгасах дасягае 6 проц., гэта значыць, што 6 процантаў усёй плошчы пасеву аўса ў саўгасах не далі ніякага ўраджаю, прычым трэба адзначыць, што некаторыя гаспадаркі былі паражаны галаўнёй на 25—40 процантаў. Гэта гаворыць аб тым, што частка гаспадарак, нават саўгасаў, зусім не пратручвае насеньня альбо калі і пратручвае, дык ня выконваюць усіх тэхнічных запатрабаваньняў гэтага мерапрыемства.

Пасьля правядзеньня палявой апрабацыі і праверкі гэтых пасеваў ва ўмовах гаспадаркі было выкрыта, што 30 проц. саўгасаў зусім не пратручвалі насеньня. У гэтых саўгасах процант пашкоджанасьці павысіўся ў параўнаньні з мінулым годам у 2-3 разы.

Па даным апрабацыі Кантр.-насеннай станцыі за 1930 г. з абсьледваных 125 гаспадарак (саўгасаў і калгасаў) на плошчы 33.300 *га*, амаль усе былі заражаны галаўнёй, але ў рознай ступені. Сярэдні-ж проц. паражэньня наступны:

| | Лік гасп. | *га* | Процант заражон. |
|---|---|---|---|
| У паўночн. частцы БССР (Віцебшчына) . . . | 271 | 9.304 | 2,36 |
| Сярэдн. частка БССР — Меншчына і б. Бабруйская акруга | 205 | 8.093 | 3,47 |
| Магілеўшчына і Аршаншчына . | 293 | 7.746 | 5,3 |
| Гомельшчына і Мазыршчына . | 256 | 8.190 | 4,18 |



У сярэднім па БССР 3,85 проц.

Гэты процант значна ніжэй паражэньня мінулага году, але-ж агульная страта ад галаўні ў абсьледваных гаспадарках складаецца з плошчы ў 1.250 *га*, альбо 12.500 *цнт*. У той час, калі пратручваньне дало наступны эфэкт: з гэтых абсьледваных гаспадарак 123 гаспадаркі зусім не пратручвалі насеньне, ў іх—паражэньне галаўнёй 4,5 проц., тады як 82 гаспадаркі, якія свой авёс пратравілі, мелі толькі 1,84 проц. заражонасьці галаўнёй, г. зн. у 2,5 раза менш.

Усё гэта гаворыць за тое, што трэба пільна сачыць за праверкай якасьці насеньня, каб не працаваць і ня кідаць у зямлю зерне дарэмна. Асабліва трэба зьвярнуць увагу на праверку якасьці насеньня ў вільготныя гады, калі насеньне з прычыны асаблівай вільготнасьці мае рэальную пагрозу псаваньня пры хаваньні. Вільготнае насеньне патрабуе асабістага догляду пры хаваньні (прасушваньне, перападачваньне, правейваньне і пэрыядычная праверка яго ўсходжасьці).

Пры руху ўсе партыі сартовага насеньня павінны саправаджацца сартавымі, альбо таварна-сартавымі пасьведчаньнямі, каб атрымацель насеньня ведаў, што ён атрымлівае і хто адказвае за якасьць гэтага мата'рыялу. Усё насеньне заражонае галаўнёй, хаця-б і ў малай ступені, павінна абавязкова быць пратручана фармалінам перад пасевам. Кожная насенна-гандлюючая, альбо насенна-снабжаючая і вытворчая арганізацыя павінна сама сачыць і адказваць за праверку якасьці насеннага матар'ялу, павінна лічыць гэтую працу сваёй непасрэднай вытворчай працай.

Толькі пры такім становішчы працы па кантролю насеньня магчыма будзе зьнішчыць усе недахопы, зьвязаныя з паніжэньнем якасьці насеннага матар'ялу.

**Сяргеенка.**

## Селькоры, культработнікі, камсамольцы, актывісты— калгасьнікі, распаўсюджвайце часопіс „Шляхі калектывізацыі“

# ПЕРАПІСКА З РАБСЕЛЬКОРАМІ

**М. Тычыне** (Любань) Нарыс пра калгас „Асьвета" ня будзе зьмешчан, зусім слаба напісан. Вы вельмі шмат аддаеце месц пра ранейшае жыцьцё вяскоўцамі, пры тым няўдала гэта апісваеце. Зусім мала зьвярнулі ўвагі на апісаньне жыцьця калгасу „Асьвета", суха і павярхоўна апісваеце сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў саўгасе.

Пішэце пра дасягненьне гэтага калгасу, як пастаўлена арганізацыя працы ў калгасе.

**Л. С.** (Ветрына). Аб падрыхтоўцы да веснавой сяўбы ў раёне ня пойдзе. У вашым допісу адны агульныя разважаньні, няма канкрэтных фактаў, няма лічбаў. Пра спэцыялізацыю раёну зьмесьцім.

**Асмолаўскаму** (Дрыбін). Дасланае—не падыходзіць для часопісу. Дасылайце аб працы калгасаў і саўгасаў. Як ідзе прыліў у калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

**Анісовічу** (Вушачы). Вы ў сваім допісу пра калгас „Чырвоны Ўсход" захапілі шмат тэм і ня справіліся з імі. Вы апішэце падрабязна адно пытаньне. Напрыклад, аб арганізацыі працы. Апішэце ў сваёй заметцы ўдарнікаў, якія змагаюцца за социялістычныя мэтады працы ў калгасе.

Трымайце з нашым часопісам сувязь.

**Гінзбург** (Вушачы). Часопіс „Шляхі Калектывізацыі" вам выпісана ў лік ганарару.

**Русовічу В.** (Заслаўскі раён). Нарыс „Шляхі Новага жыцьця" вельмі слаба напісан, ня пойдзе. У вашым нарысу вельмі шмат няўдалых вобразаў і зусім мала фактаў, прыкладаў аб тым, як бедната і серадзякі пад кіраўніцтвам партыі перабудоўваюць сваю гаспадарку на сацыялістычны лад. Прычым у вашым нарысу калектывізацыя праходзіць як-та зусім надта ўжо лёгка, без клясавай барацьбы, між тым, як сацыялістычная перабудова сельскай гаспадркі адбываецца ва ўмовах жорсткага супраціўленьня кулацтва і яго агэнтаў.

Пішэце лепш звычайнымі допісамі, яны ў вас з-пад пяра выходзяць куды лепш.

**Кавалеўскаму Ал.** (Ветрынскі раён). Ваш допіс аб МТС перададзен у газэту „Калгасьнік Беларусі".

**Піскуну М. С.** (Сьмілавіцкі раён). Допіс „Упартасьць пераможа" надрукован ня будзе, агульнае разважаньне, няма ніякіх фактаў, прыкладаў. Пішэце канкрэтна. Дасылайце матар'ял як у вас расстаўлена ў калгасе рабочая сіла ў веснавую сяўбу, як праходзіць сацспаборніцтва і ўдарніцтва (прывядзеце лічбы, факты).

---



---

Адказны рэдактар—Рэдкалегія:
Аўчыньнікаў Т., Бондар Г., Панiматка, Самусевіч, Сямашка С.

**ЦАНА 15 кап.**

## Сьпіс літаратуры да веснавой пасеўнай кампаніі, якая вышла і паступіла ў продаж.

### ПРАГРАМА ДРУГОЙ БАЛЬШАВІЦКАЙ ВЯСНЫ

Кудзінаў. Як арганізаваць калгас.

Дарожкін. Галаўня сельска-гаспадарчых расьлін.

Зубрыцкі. Бульбазапарнікі.

Купрыевіч. Страўныя, атрутныя і падазроныя грыбы.

Маслакавец. Шкодныя зьявы надвор'я і змаганьне з імі.

Найдзенаў. Пабудова абор для жывёлы.

Новікаў. Дрэвы і кусты паркаў і лясоў.

Сяргейчык і Дрывадубскі. Роля трусагадоўлі ў вырашэньні мясного пытаньня.

Фядотаў. Бабовыя, збожжавыя і ўкосныя расьліны.

Хаванскія. Кабыла і жараб'я.

Шатэрнік. Культура ільну.

Наш удзел у другой бальшавіцкай веснавой пасеўкампаніі.

Гарбуноў і Салдаценка. Пралетарскія батальёны на колгасным будаўніцтве.

Глінка. Глебы.

Дарожкін. Хваробы збожжа.

Дзьмітрыяў. Азбука будаўніцтва.

Старынскі. Як даглядаць каня.

Іваноў. Асновы кармленьня сельскагаспадарчай жывёлы.

Мейерсон. Як правільна ўбіраць лён.

Сьвідэрскі. Брудары і брударгаўцы.

Кудзінаў. Што даў калгас аднаасобнікам.

Кабазаў. Тарфяны надсьціл.

Крэйдзік. Стандартныя гатункі пладовых дрэў.

Рабочая праграма веснавых работ у калгасах.

Як захоўваць насеньнікі капусты і караньплодаў.

Сувораў. Культура ячменю і яе значэньне ў БССР.

Гарбуноў і Салдаценка. Калгасныя рулявыя.

Лявіцкая. Маліна.

Жураўскі. Малады трактарыст.

Шатэрнік. Культура лёну.

Як праводзіць барацьбу са шкоднікамі палёў.

Лістоўка. Пратручвайце насеньне супроць сажы.

Лістоўка. Вядзеце вясной барацьбу са шкоднікамі садоў.

Лістоўка. Павялічвайце ўраджай гародніны шляхам зьнішчэньня шкоднікаў.

Прыкладны статут сельска-гаспадарчай арцелі.

Варкуноў. Аб парадку скармліваньня сіласаванага корму.

Максымовіч. Да веснавой сяўбы. Як трэба садзіць бульбу, каб атрымаць вялікі ўраджай.

Гарбуноў і Салдаценка. Рапарт перамог.

Александраў. Першая дапамога буйнай рагатай жывёле ў няшчасных выпадках.

Балашоў і Карнеева. Пасека ў калгасе і моладзь.

Буткевіч. Догляд пчол ўвесну.

Зборнік. Кантрактацыя яравых.

Менск, друк. Імя Сталіна. Зак. № 523. 5.000 экз. Галоўлітбел № 564.